АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

16 лютага 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 7 (2669)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


ВІНШУЕМ!



## ТАЛЕНТ Расціслава ЯНКОЎСКАГА АДЗНАЧАНЫ ОРДЭНАМ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Ёсць акцёры, якіх ведаюць і любяць усе. Адзін з іх — Расціслаў Янкоўскі. Свой 70-гадовы юбілей народны артыст СССР і Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі правёў "Сам-насам з часам". Такую назву атрымаў яго спектакль-маналог, які артыст прадставіў гледачам у свой юбілейны вечар.

Больш за 40 гадоў аддаў народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Ім сыграна больш за 100 роляў, прыкладна 30 з іх — у кіно. Вялікі акцёр іграў Антонія і Макбета ў п'есах В. Шэкспіра "Антоній і Клеапатра" і "Макбет", ролі ў спектаклях "Баня", "На дне", зняўся ў разнастайных фільмах.

Новых прэм'ер і новых гледачоў жадаюць Расціславу Янкоўскаму яго паклоннікі. Рэдакцыя "Голасу Радзімы" далучаецца да ўсіх віншаванняў і зычыць артысту здароўя, творчага і жыццёвага натхнення.

Фота БелТА.

ІЎЕ — ГОРАД



Яшчэ адным горадам стала больш на зямлі Беларусі. Гэты статус прысвоены Іўю, дзе зараз пражывае каля дзесяці тысяч чалавек. І па колькасці насельніцтва, і па развіццю інфраструктуры, свайму гістарычнаму значэнню Іўе, канешне ж, заслугоўвае яго. Тут развітыя адукацыя і медыцына, гандаль і перапрацоўчая вытворчасць, вырас цэлы мікраёан жылых дамоў, аднаўляецца гістарычны цэнтр, дзе ўзводзяцца новыя культурныя і спартыўныя збудаванні. У Іўі стагоддзямі суіснуюць каталіцкая, праваслаўная і мусульманская рэлігіі.

Фота Рамана КАБЯКА.

ГРЫП НАСТУПАЕ

Сёлетняя эпідэмія (у нашай краіне яна абвешчана з 26 студзеня) суправаджалася самымі рознымі чуткамі: казалі і пра дзесяткі загінуўшых у Еўропе, і пра тое, што вірус гэтага года будзе ці не самым страшным за апошні час. Але, як паведаміў журналістам галоўны дзяржаўны санітарны ўрач, намеснік міністра аховы здароўя Валерый Філонаў, эпідэмія грыпу ў нашай краіне мае сярэднюю ступень цяжкасці і інтэнсіўнасці. Гэта тлумачыцца тым, што вірус тыпу А — менавіта з гэтым штамам звязваецца рост захворванняў — цыркуляваў у нашай краіне ў 1998—1999 гадах, таму ў многіх жыхароў рэспублікі выпрацаваны супраць яго імунітэт. Акрамя таго, для барацьбы з эпідэміяй своечасова былі прыняты неабходныя меры: створаны запас антыгрыпозных прэпаратаў, праведзена выкцынацыя 200 тысяч чалавек з так званай "групы рызыкі" — урачоў, педагогаў, работнікаў гандлю, людзей з хранічнымі захворваннямі органаў дыхання і сардэчна-сасудзістай сістэмы.

Тым не менш, па медыцынскую дапамогу звярнулася ўжо больш за 130 тысяч чалавек, каля 45 працэнтаў з іх — дзеці да 14 гадоў, шпіталізавана каля 900 чалавек, сярод іх 655 дзяцей. На шчасце, смяротных выпадкаў няма.

Каля 200 беларускіх школ знаходзіцца на каранціне (заняткі спыняюцца, калі хварэе больш за 30 працэнтаў вучняў). З 213 мінскіх школ не працуюць 88, закрыты ўсе школы ў Гомелі і Бабруйску.

Рост захворванняў пакуль не спыняецца: медыкі лічаць, што эпідэмія пойдзе на спад толькі праз адзін-два тыдні, у канцы лютага. Але, як запэўніла Марыя Шалаева, генеральны дырэктар беларускага вытворчага прадпрыемства "Фармацыя", аптэкі забяспечаны неабходнымі антыгрыпознымі прэпаратамі, прафілактычнымі сродкамі і вітамінамі.

Нэлі ПРЫВАЛАВА.



*У аптэках Мінска ў перыяд "нашэсця" грыпу ажыятажны попыт на прафілактычныя сродкі.*

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

СПОРТ

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Уладзімір Самсонаў, мацнейшы беларускі ігрок і першая ракетка свету, змяніў нямецкі клуб "Барусія" на бельгійскі "Шарлеруа". Кантракт уваходзіць у сілу з ліпеня гэтага года. А пакуль Уладзімір рыхтуецца да Алімпійскіх гульняў у Сіднэі. У яго запланаваны шэраг збораў, у тым ліку ў Германіі і Аўстраліі. З ліпеня разам з Самсонавым будзе трэніравацца яшчэ адзін мінчанін — Яўген Шчыцінін.

**БАРАЦЬБА.** У Мінску завяршыўся юбілейны XXX чэмпіянат па вольнай барацьбе на прызы беларускага атлета Аляксандра Мядзведзя. На жаль, нашай камандзе не дапамаглі родныя сцены, і яна засталася без залатых медалёў. Лепшымі вынікамі беларусаў сталі два другія месцы — Сяргей Дземчанка ў вазе да 69 кілаграмаў і Аляксей Мядзведзеў ў звышцяжкай катэгорыі. Два трэція месцы — у Германа Кантоева ў вазе да 54 кілаграмаў і Бейбулата Мусаева ў вазе да 85 кілаграмаў.

**БІЯТЛОН.** У польскім Закапанэ фінішаваў чэмпіянат Еўропы па біятлону. Да эстафетнага серабра юніёрак дабавілі яшчэ два сярэбраныя медалі Кацярына Грыгор'ева і Святлана Парамыгіна. У спрынтарскай гонцы юная Кацярына ўзяла золата, а яе сяброўка па камандзе Святлана Дзірко — бронзу.

Каця МАЗАКОВА.

РОК-ФЕСТЫВАЛЬ

## ЛЕПШАЯ ГРУПА ГОДА — «КРЫВІ»

Любімую падзею — рок-фестываль — моладзь чакае з нецярплівасцю кожны год не толькі каб даведацца, хто ж атрымае галоўны трафей, але і самім сустрэцца з сябрамі пад музыку.

Многія, хто ішоў на свята айчыннага року, лічылі, што карона будзе на прыгожай галоўцы Веранікі Кругловай, якая з'яўляецца не толькі "тварам", але і "галасавымі звязкамі" "Крыві". Увесь год група працавала: запісалі новы альбом, гастраліравалі, прымалі ўдзел у розных праектах, якія прайшлі "на ўра".

Нягледзячы на ўсю прыгажосць "Крыві", у сэрцах трывала ўкаранілася любоў да каралёў 1997 года — групы "N.R.M.". І калі на сцэну выйшлі любімцы публікі, зала літаральна ўзарвалася і тут жа падхапіла нікому невядомую песню. Сваю "буру" авацый атрымалі і многія выканаўцы.

Вынікі рок-каранацыі: альбом — "Варсінкі і катышкі" (тыя, што на адзенні) групы "Нейрадзюбель"; адкрыццё года — "Экіվокі"; традыцыя і сучаснасць — "Крама"; рок-князёўна — Вераніка Круглова (група "Крыві"); музыкант года — Сяргей Труханові́ч; відэакліп года — "За туманам" (група "Крыві"); песня года — "Паветраны шар" (група "N. R. M."); тэксты года — Аляксей Шадзько; лепшая група года — "Крыві".

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

## ПАМЯТНЫ ЗНАК — У МАЗЫРЫ



У Мазыры знаходзіцца важны вузлавы ўчастак нафтаправода "Дружба", па якому "чорнае золата" цячэ з Расіі ў краіны Заходняй Еўропы. Адсюль, ад лінейна-вытворчай дыспетчарскай "Мазыр", нафта паступае на нафтаперапрацоўчы завод, далей ідзе ў Львоў і Кобрын. І не выпадкова менавіта тут і быў устаноўлены памятны знак, які расказвае пра 35-гадовую гісторыю нафтаправода.

НА ЗДЫМКАХ: памятны знак у Мазыры; брыгада рамонтнікаў і электрыкаў Віктара КАНАНОВІЧА (на здымку ў цэнтры), якая забяспечвае працу нафтаправода.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## ЭКАНОМІКА

# ЭХ, ДАРОГІ...

● **Алена СПАСЮК.**

Існаванне добраўпарадкаваных сучасных дарог — адна з асноўных умоў развіцця эканомікі. Для Беларусі гэта тым больш актуальна, бо, знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, яна з'яўляецца транзітнай краінай, праз якую праходзяць два міжнародныя транспартныя калідоры. 65 600 кіламетраў аўтамабільных дарог агульнага карыстання — адзін з відаў нацыянальнага багацця.

Аўтамабільныя трасы Беларусі — дзяржаўная ўласнасць. У сферы абслугоўвання дарог працуе 37 тысяч чалавек (восем тысяч ва ўзросце да 30 гадоў). 32 працэнты з іх маюць вышэйшую ці спецыяльную сярэднюю адукацыю. За мінулы год сярэднямесячная зарплата была 24 339 рублёў (каля 30 долараў ЗША).

Беларускія аўтамагістралі, на думку большасці карыстальнікаў, выйграюць пры параўнанні з расійскімі, але саступаюць еўрапейскім. Таму ёсць банальнае тлумачэнне — грошы. На поўнае абслугоўванне аднаго кіламетра дарогі выдаткоўваецца ў Швейцарыі — 31,5 тысячы долараў ЗША, у Германіі — 21 тысяча. Цікава, што ў Расіі дарогі абыходзяцца, нягледзячы на іх горшую, чым у Беларусі, якасць, даражэй за нашыя: адпаведна 6 і 2,3 тысячы долараў ЗША.

Сёння, па словах намесніка міністра транспарту і камунікацый, кіраўніка Камітэта па аўтамабільных дарогах Аляксандра Мініна, 45 працэнтаў беларускіх дарог і 46 працэнтаў мастоў не адпавядаюць нарматыўным патрабаванням, што звязана ў першую чаргу з недастатковым фінансаваннем. На Беларусі дзейнічае Дзяржаўная праграма на 1997—2005 гады "Дарогі Беларусі". Галіна не з'яўляецца стратнай (прыбыткі за мінулы год склалі 5 144 мільярды рублёў).

Аўтадарогам уласцівы хуткі знос. Празмерная эксплуатацыя пагражае праз пяць гадоў павелічэннем выдаткаў у параўнанні з цяперашнімі ў сем разоў. Таму ў крызісныя перыяды, падобныя цяперашняму, неабходна прымаць адэкватныя захады і мець надзейныя крыніцы фінансавання. Апошнімі ў галіне аўтатранспарту з'яўляюцца адлічэнні карыстальнікаў, падаткі з продажу аўтапаліва (49 працэнтаў), транспарту (пяць працэнтаў).

Асноўная праблема аўтадарожнай сферы — павелічэнне колькасці цяжкавагавых транспартных сродкаў. Існуе распрацаваная схема маршрутаў руху грузавікоў. Аднак яе прытрымліваюцца не ўсе вадзіцелі. Таму, як паведаміў Аляксандр Мінін, у Беларусі, магчыма, прыйдзецца ўжыць расійскую мадэль — гэта значыць, прапускаць па пэўных трасах вялікагрузны транспарт толькі на ўмовах непадзельнага грузу.

Галоўнай заганай беларускіх дарог з'яўляецца неразвітая інфраструктура. Амаль няма ўздоўж трас матэляў, пляцовак для адпачынку вадзіцеляў. Летась у Камітэце па аўтамабільных дарогах была распрацавана і прынята схема развіцця сервісу на магістралях і дарогах. Па плану інфраструктура павінна знаходзіцца ў прыватных руках. Але сёння эканамічныя ўмовы не спрыяюць развіццю актыўнасці прадпрымальнікаў. Наадварот, наглядаецца зніжэнне актыўнасці інвесціравання ў вышэйназваную галіну.

Гэта ж замінае і міжнародным праектам. Праўда, існуе дамоўленасць Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця аб мадэрнізацыі дарогі М-1 (Брэст — Мінск — мяжа Расіі). Першапачаткова планавалася, што доля банка складзе 66, а Камітэта па аўтамабільных дарогах — 34 працэнты агульных выдаткаў. Былі праведзены лёгкі рамонт, зменены дарожныя знакі на больш сучасныя. Але банк прапанаваў перадаць частку дарогі ў прыватную ўласнасць (што супярэчыць беларускаму заканадаўству), зрабіў некаторыя іншыя рэкамендацыі. У выніку па праекту выдаткі банка павінны скласці 30, а камітэта — 70 працэнтаў. Цяпер ідзе гаворка пра стварэнне акцыянернага таварыства, якое зоймецца рэканструкцыяй трасы М-1. Іншымі словамі, праект мадэрнізацыі вышэйназванай дарогі пакуль не працуе, але і не закрыты.

Праблемы добраўпарадкаванасці дарогі, інфармацыя пра значнае зніжэнне транзіту праз Беларусь выклікаюць чуткі, нібы нас аб'язджаюць праз іншыя краіны. Аляксандр Мінін сцвярджае, што, мяркуючы па статыстычных даных суседніх дзяржаў, гэта не так. Існуе аб'ектыўны фактар зніжэння транзіту (пасля жнівеньскага абвалу 1998 года ён паменшыўся ў тры разы, цяпер на 1/3). Да сённяшняга дня колькасць транзіту, якая была ў першай палове 1998 года, не аднаўлена. Так што быццам бы занадта высокія зборы на нашых дарогах — не прычына. Тым не менш сёння забаронена любая (акрамя цэнтралізаванай) аплата на дарогах. Раней здараліся прэцэдэнты, калі мясцовыя ўлады дадаткова патрабавалі грошы за праезд па сваёй тэрыторыі, прытым у памеры, роўным 50 доларам ЗША. Столькі ж складае дзяржцана ўезду і выезду грузавіка з дарогі М-1 працягласцю 600 кіламетраў.

Яшчэ пра перспектывы і дасягненні галіны. Існуе так званы "Польскі праект", які прадугледжвае будаўніцтва моста працягласцю 300 метраў праз раку Заходні Буг. Польская частка выдаткаў павінна скласці палову ад агульнай . Плануецца, што мост зможа вытрымліваць нагрузкі 12 тон на вось.

Хаця летась пабудавана і адрамантавана 8 тысяч 320 кіламетраў дарог і 11 тысяч пагонных метраў мастоў, працы застаецца шмат. Да 2005 года павінна адбыцца рэканструкцыя мінскай кальцавой дарогі, будзе зроблены абход буйных гарадоў.

## З ДАКЛАДНЫХ КРЫНІЦ

### ЛЕТАСЬ У БЕЛАРУСІ БЫЛА СПЫНЕНА ДЗЕЙНАСЦЬ 133 КРЫМІНАЛЬНЫХ ГРУПОВАК

Па маштабах дзейнасці злачынных згуртаванняў Беларусь у параўнанні з Расіяй з'яўляецца "спакойнай, бяспечнай дзяржавай".

Гэтую думку выказаў кіраўнік Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС Беларусі Міхаіл Мядзведзеў.

Па яго словах, у рэспубліцы за мінулы год супрацоўнікамі камітэта ва ўзаемадзеянні са спецыялістамі іншых праваахоўных структур былі выяўлены і выкрыты 133 крымінальныя групоўкі, расследуецца 15 фактаў стварэння злачынных арганізацый, спынена дзейнасць 4 узброеных бандыцкіх фарміраванняў. Пры гэтым М. Мядзведзеў адзначыў, што маштабы дзейнасці даных злачынных згуртаванняў нельга параўноўваць з крымінальнымі групоўкамі ў Расіі.

Падводзячы вынік працы камітэта за мінулы год, яго кіраўнік адзначыў, што на працягу года было выяўлена і выкрыта чатыры тысячы злачынстваў. 45 працэнтаў з іх складаюць злачынствы ў сферы эканомікі, "прычым палова звязана з карупцыяй у розных эшалонах улады".

У мінулым годзе супрацоўнікамі камітэта было канфіскавана 175 адзінак агнястрэльнай зброі, больш за 40 тысяч патронаў і 30 кілаграмаў выбуховых рэчываў.

На "наркалагічным фронце" было канфіскавана каля 400 кілаграмаў наркатычных рэчываў, што эквівалентна 100 тысячам аднаразовых доз. Супраць наркадзялкоў усіх масцей у рэспубліцы ўзбуджана 124 крымінальныя справы. У прыватнасці, была спынена злачынная дзейнасць трох жыхароў Мінска, якія спрабавалі стварыць канал нелегальнай пастаўкі гераіну з Таджыкістана.

М. Мядзведзеў падкрэсліў, што асноўныя намаганні аператыўных работнікаў камітэта былі накіраваны на забеспячэнне эканамічнай бяспекі дзяржавы ў галіне фінансавага і валютнага рынку, а таксама аграпрамысловага і паліўна-энергетычнага комплексаў. "Значыць, рубель — асноўная адзінка вымярэння нашага ККД".

Па словах М. Мядзведзева, за мінулы год супрацоўнікамі камітэта было вернута дзяржве матэрыяльных каштоўнасцей, маёмасці і грашовых сродкаў больш чым на тры трыльёны рублёў. Сумесна з падраздзяленнямі падатковай службы і фінансавых расследаванняў супрацоўнікамі камітэта спынена дзейнасць 300 фірм-аднадзёнак, якія працавалі на валютным рынку. У выніку, арыштавана грашовых сродкаў на 2,3 мільёна долараў ЗША.

Як паведаміў кіраўнік камітэта, матэрыяльны эфект ад праведзеных аператыўна-прафілактычных і спецыяльных мерапрыемстваў на валютным і спажывецкім рынках склаў каля 500 мільярдаў беларускіх рублёў.

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ



У Беларскім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылася вечарына з нагоды 60-годдзя ўтварэння Навагрудскага раёна. Адкрыў яе і вёў старшыня БелТД Арсен Ваніцкі. Своеасаблівую справаздачу перад прысутнымі ў зале, сярод якіх былі прадстаўнікі 14 дыпламатычных місій, у прыватнасці, Балгарыі, Кубы, Германіі, Індыі, Японіі, Ізраіля, Чэхіі, Расіі, Эстоніі, Малдовы, трымаў старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Ліс (на здымку першы з правага боку).

Цікавы факт, што практычна супалі дзве даты ў тысячагадовай гісторыі Навагрудка: 60 гадоў раённаму цэнтру і 760 — першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага. З навагрудскай зямлёй звязана жыццё і дзейнасць многіх вядомых дзеячаў беларускай культуры. Маляўнічыя краявіды і архітэктурныя помнікі краю прыцягвалі ўвагу Напалеона Орды, Юзэфа Пешкі, Язэпа Драздовіча, Яна Булгака. Легенды і паданні Навагрудчыны натхнялі на творчасць Яна Чачота, Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлю.

Удзельнікаў вечарыны парадаваў сваім выканальніцкім майстэрствам народны хор ветэранаў вайны і працы з Навагрудка "Радасць". Былі разгорнуты выстава "Мой Навагрудак" мясцовых мастакоў Кастуся Качана, Віктара Сташчанюка, Раісы Сіплевіч і фотавыстава "Зямля навагрудская" Таццяны Царук.

**Ірына ГАЙ.**



## ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

### «І ПРЫГАДАЛАСЯ МНЕ ДАЛЁКАЕ...»

Праз 54 гады пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны атрымаў пасведчанне яе ўдзельніка Іван Бекіш з вёскі Алексічы, што ў Зэльвенскім раёне.

Калі запытаць яго, як жыў і жыве зараз, Іван Гаўрылавіч шчыра і з прывычнай д сябе сціпласцю і сялянскай годнасцю а кажа: "Як усе".

— Я быў малады — працаваў, так што ў мяне праблем не было, таму і не ішоў у райваенкамат турбаваць, — заўважае ён.

Калі ж чарговы раз у водпуск да бацькі на радзіму прыехаў сын з Омска, то не вытрымаў — зайшоў да ваеннага камісара раёна У. Сытых, хаця бацька па-ранейшаму настойваў на сваім: "Няхай хворыя ідуць, а мне гэта пакуль не патрэбна..."

Але пайшлі лісты-запыты ў дзяржархіў горада Падольска...

Крыху больш за дваццаць было Івану Гаўрылавічу, калі яго ў 1942-м годзе фашысцкія захопнікі вывезлі разам з многімі аднавяскоўцамі ў Нямеччыну. Працаваў на гаспадара, які стараўся як мага больш загрузіць работай.

— Вызвалілі нас 8 сакавіка 1945 года, — гаворыць І. Бекіш, — і мяне амаль адразу прызвалі ў Чырвоную Армію. Служыў у 238-м армейскім запасным, затым — у 721-м стралковым палку. Быў у Данцыгу, у Даніі — востраў Борнхольм вызвалялі. Востраў гэты мае плошчу ўсяго 40х60 кіламетраў. Але на вайне, як на вайне. Давялося адчуць і боль страты баявых сяброў, і прайсці яе сцежкамі, здабываючы Перамогу — адну на ўсіх.

Што ж тычыцца храналогіі яго жыцця далей, то да 1947 года Іван Гаўрылавіч працягваў служыць у арміі. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў родныя Алексічы, на Зэльвеншчыну.

І. Бекіш захаваў чырвонаармейскую кніжку часоў вайны — яна і дапамагла праз шмат дзесяцігоддзяў пачэсна далучыць яго да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

**Пётр ЖЭБРАК.**

## КОРАТКА

**САЦЫЯЛЬНЫЯ ГАРАНТЫ.** Падтрымаць пераважна непрацаздольных і малазабяспечаных грамадзян рэспублікі прызначана Комплексная сістэма мер па сацыяльнай абароне насельніцтва. Гэта праграма, распрацаваная Міністэрствам эканомікі з удзелам іншых зацікаўленых ведамстваў, пасля дапрацоўкі прынята на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў.

**АДЛІГА ПРАЦЯГНЕЦЦА.** Як паведаміў Беларускі гідраметцэнтр, у сярэдзіне лютага сярэднясутачная тэмпература была на 8—10 градусаў вышэйшай за норму. Такі ж цёплы люты назіраўся ў краіне толькі ў 1990 годзе.

**"КРАІНА ЛІМОНІЯ".** Вырасціць свае лімоны вырашылі ў саўгасе "Цяплічны" Гомельскага раёна. У якасці эксперымента тут пасадзілі 250 дрэўцаў. І гэтай зімою на ўсіх ужо завязаліся плады. Так што праз некалькі месяцаў гамяльчане змогуць паласавацца сваімі цытрусавымі.



## НУМІЗМАТЫКА




Памятныя манеты "2000 год Нараджэнню Хрыстову — "ВІФЛЕЕМ" і "2000-годдзе хрысціянства", прысвечаныя 2000-годдзю хрысціянства, увёў у абарачэнне Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь. Манеты зроблены з медна-нікелевага сплаву і серабра.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**




## ШМАТГАЛОССЕ

**ХАЙ КВІТНЕЕ "РУТА".** Няма яшчэ і года, як у старажытнай Лідзе нарадзілася грамадскае *аб'яднанне мясцовых літоўцаў* з прыгожай назвай "Рута". Але і за гэты час энтузіясты згуртавання паспелі нямала зрабіць. Зараз літоўская суполка налічвае 50 чалавек. Адкрыта нядзельная школа, у якой родную мову, культуру і традыцыі свайго народа вывучаюць не толькі дзеці, а і іх бацькі. Устаноўлены плённыя стасункі з аб'яднаннем літоўцаў суседняга Воранаўскага раёна і літоўскай школай у вёсцы Песіса.

Нядаўна лідскія літоўцы намецілі і ўхвалілі план работы на бягучы год. Як паведаміла старшыня аб'яднання "Рута" Марына Мацюкевіч, яны мяркуюць стварыць свой калектыў мастацкай самадзейнасці, урачыста адзначыць Дзень незалежнасці Літвы, Свята маці і іншыя знамянальныя даты і падзеі.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

## ПЕРСПЕКТЫВЫ

**РАСПРАЦАВАНЫ ПРАЕКТ ПРАГРАМЫ ПАДТРЫМКІ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ АДУКАЦЫІ.** Праект праграмы, накіраванай на падтрымку беларускамоўнай адукацыі, распрацаваны ў Міністэрстве адукацыі краіны. Яна закранае ўсе ўзроўні навучання — ад дашкольнага да паслядыпломнага. Асобая ўвага надаецца вышэйшым і сярэднім спецыяльным навучальным установам. Перш за ўсё плануецца пашырыць выкарыстанне беларускай мовы ў гуманітарных і педагагічных навучальных установах.

Немалаважнай з'яўляецца і тая частка праграмы, якая прадугледжвае ўвядзенне ў кожнай ВНУ двух патокаў — беларускамоўнага і рускамоўнага. Менавіта такім чынам у Міністэрстве адукацыі вырашылі адказаць на заклікі стварыць Нацыянальны універсітэт.

## САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ЦЕПЛЫНЯ ВОСЕНЬСКАГА БУКЕТА

***Яны запрасілі мяне на канцэрт вучняў 28-й сталічнай школы, з якой цесна сябруюць. Ісці не вельмі хацелася, бо ўсякага кшталту музычныя тэлешоу сталіся такой надакучлівай будзённасцю, што даўно адбілі ахвоту да розных канцэртаў.***

***Аднак не ісці ў школу было проста недазвольна: мелася адбыцца першае маё знаёмства з адной цікавай ветэранскай арганізацыяй, што святкавала пяцігоддзе існавання. І канцэрт школьнікаў мусіў стацца пэўным паказчыкам узаемных сімпатый. Менавіта ўзаемных. Бо тое, што старасць любіць туліцца да маладосці, сумніву не выклікае, а вось адваротнае прыцягненне катэгарычна сцвярджаць не бяруся.***

***Між тым, канцэрт, што складаўся галоўным чынам з танцавальных нумароў, прыемна здзівіў сваім эстэтычным узроўнем. А ў зале, здавалася, нябачна прысутнічала атмасфера павышанай адказнасці юных выканаўцаў перад знаёмай аўдыторыяй. І цяжка было вызначыць, хто з іх шэфы, а хто падшэфныя — юныя ці пажылыя, а можа, у залежнасці ад абставін яны чаргаваліся ролямі?..***

Суполка ветэранаў невялікая, каля паўтараста чалавек; з дакументальным жа пацвярджэннем сваёй нялёгкай дзіцячай мінуўшчыны — толькі палова. Не іх віна — так атрымалася. У пасляваеннай разрусе яны, малыя, пра гэта не задумваліся, ды і выхавальнікам было не да таго. Потым частка дзетдамоў расфарміравалася, іх справаводства шматразова перадавалася з архіва ў архіў, пры перадачы асобныя паперчыны губляліся. Як напісала колішняя дзетдомаўка Марыя Берніковіч: "Где взять ту справку, коль сгорело все? И получается, что мы ни то, ни сё". Адсутнасць афіцыйнага пацвярджэння не сталася перашкодай для ўваходжання ў арганізацыю, дзе за дакументы маглі сысці засведчаныя на паперы або нават вусныя падрабязнасці з дзетдомаўскага побыту: указанне месца знаходжання дзіцячага прытулку, ягонага нумара, эпізоды тамтэйшага жыцця, пацвярджэнні "калег". Успаміны былі, вядома, розныя. Аднак было і ёсць перакананне: калі б не было дзіцячых дамоў — не было б ім, малым бедакам, паратунку ад вайны.

Іх саюз завецца Асацыяцыяй выхаванцаў дзіцячых дамоў ваеннага часу.

Але хіба гэта значыць, што з любой нагоды трэба аб'ядноўвацца ў суполкі, задзіночанні, таварыствы, злучэнні і г. д.?

— Не магу з вамі пагадзіцца, — горача пярэчыць мне старшыня савета Асацыяцыі былых выхаванцаў дзетдамоў Ганна Чупырка. — Старасць, усім вядома, жывіцца мінулым. І матыў брацтва, матыў, так бы мовіць, блізкасці па канкрэтным няшчасці, якое завецца стратай бацькоў, а не агульнае ваеннае дзяцінства, што крыху аддае нечым абстрактным, якраз і ёсць падстава для аб'яднання.

— Агульнае, вы сцвярджаеце, ваеннае дзяцінства сіротаў і несіротаў?

— Цяперашняе жыццё наша вымагае канкрэтнай падтрымкі, — уключаецца ў размову Вера Адамовіч, безадказны намеснік старшыні савета асацыяцыі, — але ўвесь свет не дапаможа. А вось члены асацыяцыі — заўсёды. Калі не матэрыяльна, дык маральна. І дапамога бывае істотная. Больш таго, мы дапамагаем не толькі сваім.

* * *

Дзень Перамогі для іх — самае вялікае свята. Так павялося з тае пары, калі чакалі гэтага дня ў дзетдамах таго ж Хвалынска, маленькага гарадка на Волзе (ды іншых таксама). 16 тысяч ягоных жыхароў здзейснілі тады грамадзянскі подзвіг: далі прытулак 10 тысячам (!) маленькіх бежанцаў і нямногім іх выхавальнікам. Насельніцтва горада павялічылася больш як у паўтара раза. Для мясцовых улад і жыхароў гэта сталася яшчэ адным моцным галаўным болем, згусткам праблем, памножаных на ваенны час. Што ж, ніхто тады не заенчыў. Былі толькі сардэчны жаль ды жаданне дапамагчы дзецям.

Самаахвярнасць валжан не забытая былымі выхаванцамі. Стасункі з хвалынцамі атрымалі новы моцны імпульс, калі мясцовы энтузіяст-краязнаўца Дзмітрый Захараў узяўся за напісанне хвалынскага дзетдомаўскага летапісу. Паводле задумы аўтара, эпапею мусіла скласці ваеннае дзяцінства беларускіх, украінскіх, смаленскіх, ленінградскіх ды іншых дзяцей, якія набылі ў Хвалынску другі родны дом. На жаль, не паспеў Дзмітрый Захараў ажыццявіць задуманае. У самы разгар працы варожая куля, на якую натрапіў салдат пры вызваленні Украіны і якая чвэрць стагоддзя таілася ў ягоным целе, аказалася траянскім канём. Яна паразіла пазваночнік, зрабіла нерухомымі ногі, прыкавала да ложка. Ён да гэтага няшчасця паспеў многае. Нібы прадчуваючы ўдар лёсу, спяшаўся. Скончыў педагагічны інстытут у Саратаве, юрфак Маскоўскага універсітэта, вучыў дзяцей гісторыі, нямала гадоў служыў правасуддзю ў родным горадзе. А ў 1981-м, у многім дзякуючы яму, нерухомаму, але моцнаму духам, прайшоў у Мінску злёт выхаванцаў хвалынскіх дзіцячых дамоў. Гэта быў ужо другі злёт, першы адбыўся ў Хвалынску год таму.

Марлен Рабейчыкаў, былы дзетдомавец, потым сын палка, пасля ваенны лётчык, пілот грамадзянскай авіяцыі, а цяпер пенсіянер, адказны супрацоўнік адміністрацыі цэнтральнага універсальнага магазіна "Мінск", прыгадвае, што Дзмітрый Захараў, нягледзячы на свой жаласны фізічны стан, быў цэнтрам, рухавіком падрыхтоўкі да злёту: даваў распараджэнні, змяшчаў у газетах аб'явы, рассылаў пісьмы, у тым ліку Рабейчыкаву, які ўзяў на сябе вялікую частку клопатаў па размяшчэнні ста пяцідзесяці ўдзельнікаў злёту, распрацоўцы рэгламенту яго работы, культурнай праграмы і г. д.

Планаў было шмат. Хвароба не падкасіла духоўнай моцы Захарава, але не справіўся хворы арганізм. 16 лістапада, неўзабаве пасля мінскага злёту, Марлен Рабейчыкаў атрымаў ад жонкі "другога Мікалая Астроўскага", як звалі свайго натхняльніка сябры-дзетдомаўцы, кароткі ліст з журботным паведамленнем пра раптоўную смерць Дзмітрыя Пракопавіча. На ягонай пасцелі застаўся ляжаць аркуш з артыкулам у газету, абарваным на паўслове.

Абрывалася паступова, як пашкоджаная нітачка, і ўвасабленне ў жыццё ідэі аб'яднання хвалынскага дзетдомаўскага брацтва: матор заглух.

Толькі амаль праз паўтара дзесятка гадоў няўрымслівая Ганна Чупрыка са сваімі прыхільнікамі пры падтрымцы разумных чыноўнікаў (гэтак пашанціла!) Савецкага раёна Мінска, перш за ўсё кіраўніка мясцовай адміністрацыі Вінерыя Валчугі і загадчыцы аддзела сацыяльнай абароны Марыі Іонавай, здолелі стварыць ужо названую асацыяцыю.

Сказаць, што ім лёгка, нельга.

— Часта накатвае такая нуда, што хочацца ўсё кінуць, — зазначае Ганна Чупырка. — Соваешся да аднаго, другога бюракрата — ніякага паразумення. Рукі апускаюцца. Але як зірну на нашу дружную кагорту, дык набіраюся новых сіл.

— Мы, — працягвае Зінаіда Чарвякова, — што б там ні было, не аддаёмся роспачы, ратуемся ад дурнога настрою справай. Падумаеш, што без цябе твайму ж таварышу блага даводзіцца, што ён адчувае ў табе патрэбу — адразу за працу. А працы такой нямала. Вось і нядаўна з Верай Адамовіч разносілі навагоднія падарункі маларухомым старым. Гэта былі не толькі члены нашай асацыяцыі. Сярод жа нашых асабліва апякоўваем інвалідаў Уладзіміра Гудзіка, ветэрана Вялікай Айчыннай, Рамана Карповіча ды іншых. І такая апека не адны адведкі. Для Гудзіка і Марыі Берніковіч, яна таксама інвалід, мы, я ў тым ліку, даглядаем і ўбіраем бульбяныя соткі. Так было і летась. А Саша, мой сын, прывёз ураджай ім дадому.

— Мы ўжо неяк зрадніліся, — распавядае Ніна Русецкая. У мяне моцнае сяброўства з Машай Берніковіч, членам нашай асацыяцыі, чалавекам незвычайнай мужнасці. У мінулым лістападзе ёй ужо 60 стукнула, і 20 з іх яна прыкавана да ложка.

Адбілася вусцішным рэхам траўма пазваночніка, калі маленькае дзіця фашысты скінулі ў студню.

Аповед Ніны Русецкай і Ганны Чупырка пра гэты прыклад высакароднай чалавечай годнасці і вялікай душы слухаеш сцяўшы зубы, каб не разнервавацца. У невялікай кватэры, дзе Марыя жыве з неразлучнай сяброўкай Нінай, тым не менш, няма месца нудзе, скаргам. Тут вас пачастуюць моцнай гарбатай, спяюць песню, Марыя прачытае верш, прыдуманы ўчора або заўчора. А колькі цудоўных вышывак, хатніх вязаных тапачак, сурвэтак, іншых цудоўных вырабаў зрабіла і падарыла сябрам Марыя! Частка гэтай калекцыі аздабляе сцены кватэры. З гэтага ўтульнага куточка не хочацца ісці. Але ўсе ведаюць, у што абыходзіцца гаспадыні гасціннасць. Марыя Барысаўна без абязбольваючых, якія, часова паляпшаючы яе стан, тым не менш, руйнуюць яе здароўе, заснуць не можа. Вялікім суцяшэннем ёй, вядома ж, служыць усведамленне, што вакол сябры, яны не пакідаюць яе ў самоце.

Праўда, іншы раз, асабліва ў святы, чорнай птушкай налятае мімалётнае засмучэнне, і тады на паперы з'яўляюцца ягоныя горкія сляды:

Четыре дня гуляла вся столица,  
И всем здоровым было хорошо...  
Приятно видеть радостные лица.  
Ну а по мне, скорее б  
всё прошло:  
Ведь о таких, как я, никто  
не вспомнит,  
Мы, как всегда, наедине  
с собой...

* * *

Былыя дзетдомаўцы, стаўшы дарослымі, не развучыліся адгукацца на чужую бяду. Яны і пасярод імгнення радасці прымаюць яе да сэрца.

Той Дзень Перамогі, самае светлае для іх свята, яны адзначалі на адным з зялёных паркавых пагоркаў. Вакол панаваў вясёлы гоман: людзей сабралася багата. З гэтым бязвоблачным фонам рэзка кантраставала сагнутая постаць кепска апранутай, не першай маладосці істоты мужчынскага выгляду. "Магчыма, бяда яго гэтак прыбіла?" — мільганула не ў аднаго з былых дзетдомаўцаў думка.



*Уручэнне пісьма з падзякай падшэфнай сям'і ЧАРВЯКОВЫХ.*

Падысці да яго, прывесці да імправізаванага стала было справай хвіліны. Для іх, звыклых да спачування, думка або слова ёсць справа. Небараку накармілі, даведаліся, што ён родам з Барысава, жыў у Казахстане, у часы ганенняў на славян прыйшлося даць адтуль лататы. Дакументы згубіў, жытла не мае, начуе ў нейкім люку, дзе праходзіць цеплатраса. Яму далі прыняць ванну, забяспечылі начлегам. Потым у адным з аддзяленняў Чырвонага Крыжа здабылі прыстойную вопратку, з цягам часу выправілі дакументы, уладкавалі на працу, прапісалі...

— Дарэчы, па тэме зносін, — Ганна Чупырка не можа моўчкі абысці размову пра кантакты. Больш, як каму, ёй даводзіцца сустракацца і з сябрамі, і з нядобразычліўцамі. — Многія дзяржаўныя ўстановы і асобы падтрымліваюць з намі нефармальныя адносіны, як той жа Чырвоны Крыж. Заўсёды стараецца падставіць нам надзейнае плячо кіраўнік адміністрацыі Савецкага раёна Мінска Вінерый Валчуга, шэраг нашых ініцыятыў мог бы згаснуць без падтрымкі загадчыцы аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Савецкага райвыканкама Марыі Іонавай. Часцяком ідуць насустрач нашым патрэбам кіраўнікі прадпрыемстваў — дзяржаўных, прыватных, змешаных, арэндных. Не так даўно, напрыклад, выйшла ў свет кніга ўспамінаў 33-х былых дзетдомаўцаў ваеннага часу "Мы родам з ваеннага дзяцінства". Яе не было б, калі б не нашы спонсары, як тыя, каго ўжо прыгадала, так і іншыя сардэчныя людзі: Аляксандр Жылінскі, Вальдэмар Юшкевіч, Іна Аляшкевіч, Міхаіл Разнічэнка, Якаў Песін, Павел Белагураў, Мікалай Данчак. І на гэтым спіс сяброў, памочнікаў не канчаецца.

— Але каму асаблівае дзякуй, — працягвае Ганна Чупырка, — дык гэта нашай найпершай дарадчыцы, нашаму міністру сацыяльнай абароны Вользе Даргель. Гэта ўдача, што такую далікатную дзяржаўную сферу ў краіне даручылі Вользе Браніславаўне. Не падумайце, што мае словы — ліслівасць. Я незалежны чалавек, і мне няма патрэбы незаслужана хваліць каго б там ні было, хай сабе ён і міністр. Тут справа іншая. Дай нам, Божа, больш такіх міністраў, што разумеюць чужую бяду, чужую праблему, як сваю, а не хаваюць, быццам страус, галаву ў пясок перад нечаканай просьбай...

Нельга забыць выпадак з былой выхаванкай дзетдома Фалькоўскай, якая жыла ў камунальнай кватэры. Калі памёр яе сусед, другі пакой гэтага жылля выканкам ёй не аддаваў. Пэўна, меў рацыю: на аднаго чалавека прыпадала зашмат плошчы. Ну што ж, падсяляйце. Але прыстойнага чалавека. Дык не — толькі алкаша. Усе спробы пераканаць, усе ўшчуванні на маленькага начальніка, якому захацелася пакуражыцца над жанчынай, не дзейнічалі. Толькі настойлівае ўмяшанне нашай асацыяцыі прымусіла вырашыць пытанне на карысць Фалькоўскай: ёй выдзелілі аднапакаёвую кватэру.

* * *

Думаецца, актыўная, карысная дзейнасць асацыяцыі былых выхаванцаў дзетдамоў служыць рэальнай падмогай дзяржаве ў справе апекавання пажылых людзей, бярэ, па сутнасці, на сябе частку клопатаў пра задавальненне іх матэрыяльных і культурных запатрабаванняў. Менавіта такім уяўляецца нармальны дзяржаўны погляд на мэты гэтай арганізацыі, якая менш просіць, чым дае. Дык не ж!

Скажоны, скрыўлены бюракратычны позірк стараецца не заўважаць сваіх добраахвотных памагатых. А просяць яны ўсяго нічога: надаць суполцы статус зарэгістраванай грамадскай арганізацыі. Нейкая крыха ўвагі. Просьба ж гадамі марнуецца, не заўважаецца, адхіляецца.

З гэтых адмоў ужо можна аформіць ладную спецыялізаваную бібліятэку бюракратычнай абыякавасці і блізарукасці.

* * *

Восень жыцця чалавека, як букет красак, клапатліва апушчаных у керамічную вазу і ссохлых, доўга яшчэ нясе ў сабе водар кароткага лета, і прыгаслыя фарбы разнаквецця дазваляюць гадамі захоўваць цёплыя ўспаміны незабыўнай пары росквіту і выклікаюць жаданне пазмагацца яшчэ за сябе і сваіх сяброў.

Такая чыста чалавечая сутнасць падобных асацыяцый. Яна мусіць быць узведзена ў дзяржаўны ранг. Бо таксама вызначае культурны ўзровень і вагу любой краіны ў сусветнай цывілізацыі.

**Раальд ЛЕВІН.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# Янка БРЫЛЬ: «ЛЮБЛЮ ВЯРТАЦЦА ДА СТАРОНАК ДАЎНО ЗНАЁМЫХ»

На мяжы стагоддзяў у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы сумесна з кніжным клубам Таварыства беларускай мовы адбылася сустрэча з народным пісьменнікам Беларусі Янкам Брылём, чалавекам, чый жыццёвы і творчы лёс цесна звязаны з этапнымі вехамі ў жыцці нашай дзяржавы ў XX стагоддзі. Вечарына сабрала шмат прыхільнікаў слыннай творчасці пісьменніка: пераважная колькасць моладзі — студэнты дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ, журналісты, вучні школ, каледжаў. Усіх цікавіла сустрэча з Янкам Брылём.

Успаміны — гэта стан душы чалавека. Шчымліва прагучалі старонкі пра дзяцінства. Іван Антонавіч зазначыў, што нарадзіўся ён у Адэсе ў жніўні 1917 года і быў дзесятым дзіцем у вялікай сям'і. Праз некалькі гадоў Брылі вяртаюцца на бацькаву радзіму ў вёску Загор'е. Маленства Янкі прайшло сярод цудоўных маляўнічых краявідаў Навагрудчыны. Дзеці паміж сабой былі вельмі дружныя, дапамагалі бацькам па гаспадарцы. Дзяцінства — гэта тая пара, якую людзі ўспамінаюць з вялікім светлым сумам, "бо дзеці шчаслівыя тады, калі жывыя бацькі", а бацька памёр у 1924 годзе (хлопчыку было сем гадоў). Іван Антонавіч нагадаў, што скончыў польскую сямігадовую школу ў мястэчку Турэц. Паступіўшы ў Навагрудскую гімназію, вучыцца не змог, бо трэба было дапамагаць маці па гаспадарцы. Таму мэтанакіравана займаўся самаадукацыяй. Пісаць пачаў у школе. Гэта былі вершы на польскай, беларускай і рускай мовах: "Мой першы верш быў надрукаваны 25 сакавіка". І ў гэтым пісьменнік зараз з вышыні свайго мудрага ўзросту бачыць сімвалічны сэнс.

Іван Антонавіч згадаў, што ён на сваім вяку перажыў не адну ўладу, розныя жыццёвыя абставіны кідалі яго ў вір, з якога, здаецца, "выплыць" практычна было немагчыма. Жывучы ў Заходняй Беларусі, у 1939 годзе юнак прызываецца ў польскую армію, служыць у марской пяхоце. Падчас баёў з гітлераўцамі ў выніку капітуляцыі польскага войска трапляе ў палон, дзе працуе на прымусовых работах. Затым уцякае на Радзіму. У 1944 годзе ён апынуўся з маці і братамі ў партызанах. Пасля заканчэння другой сусветнай вайны прыязджае ў Мінск. 20 верасня 1945 года гасцінна расчыніў дзверы для сваіх наведвальнікаў Літаратурны музей Янкі Купалы. Калі музей распачынаў сваю дзейнасць, першымі навукоўцамі, якіх на працу ў музей запрасіла Уладзіслава Луцэвіч, жонка і паплечніца вялікага Купалы, былі сябры паэт Валянцін Таўлай і пісьменнік Янка Брыль.

Упершыню з творчасцю Купалы будучы пісьменнік пазнаёміўся ў першым ці другім класе. У польскай школцы па тым часе выкладалася як польская, так і беларуская мова. У кніжцы "Зорка", складзенай жонкай Аркадзя Смоліча, былі творы Янкі Купалы. З чацвёртага па сёмы клас будучы пісьменнік ужо ведаў на памяць шмат купалаўскіх вершаў... З успамінаў 1992 года: "Вельмі рана прачнуўшыся, яшчэ не ўстаючы, чытаў Купалу з учора купленай "Спадчыны", рэпрынтнае перавыданне з першага выдання. Устаючы, каб распачаць новы дзень, адкладваў кнігу з душэўнай удзячнасцю, уголас казаў: "Вось гэта — Купала! Якога — вольнага ды шчырага — трэба яшчэ ўсё пазнаваць".

Заварожаная зала слухала яркага прамоўцу, у якога словы-залацінкі раскрывалі высокую чалавечую годнасць у адносінах да жыцця, да сяброў (а гэта Максім Танк, Пімен Панчанка, сям'я Гарэцкіх, Ніл Гілевіч, Уладзімір Калеснік). "Я прыйшоў у літаратуру ў 1944 годзе і да 1953 пры Сталіне вучыўся ў старэйшых. Як і ўсе літаратары, перажываў гэту нягоду рабства пры сацыялізме, калі трэба было пісаць не тое, што хочаш, а тое, што трэба. І трэба не табе, не Богу, а таму, хто кажа... Цяжка падлічыць, маю на ўвазе пакаленне, якое ўступала ў літаратуру пры Сталіне, колькі мы на гэтым змарнавалі часу..."

І згадваецца думка, як ствараўся Саюз пісьменнікаў, якімі былі розныя надзеі, падзеі, хваляванні. І ў творах пісьменніка заўсёды знаходзілі адлюстраванне тыя ці іншыя этапныя моманты з жыцця народа і дзяржавы. Нацыянальная пазіцыя Янкі Брыля, прысутнасць яго ў літаратуры больш за паўстагоддзя вызначаюцца любоўю да роднай зямлі, мовы, звычаяў народных, песень. "Усё гэта жыло ўва мне і жыве", — зазначыў пісьменнік.

На працягу вечарыны моладзь літаральна закідала Івана Антонавіча пытаннямі. І на адно з іх пра стан мовы Янка Брыль адказаў: "Будзе многа цяжкага ў нашым жыцці, многа небяспечнага, але Беларусь жыла і будзе жыць. Мова беларуская жыла і будзе жыць..."

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ, загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Янкі Купалы.**

На здымку: інжынер Ірына ВЯРБОЎСКАЯ з дачкой Надзейкай бяруць аўтограф у Янкі БРЫЛЯ.

**Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ

# «ПАПА КАРЛА» З КРУПЕНІК

Памятаеце, як ажыло ў руках старога шарманшчыка Карла палена? Ажыло і ператварылася ў забаўнага чалавечка — любімца дзетвары Бураціна. Дык вось, я ўпэўнены: сапраўдны майстар здольны ўдыхнуць душу не толькі ў драўляную ляльку, а наогул у любы выраб з дрэва. І гэтая ўпэўненасць з'явілася ў мяне пасля наведвання майстэрні Івана Магіляўца з вёскі Крупенікі, што знаходзіцца на самым краёчку Любанскага раёна.

Майстэрня — як майстэрня. Нічога дзіўнага! З варштатамі каля сцен, з духмяным дыванам пакручастых стружак на падлозе, з мноствам рознакаліберных долатаў, пілачак, гэблікаў, калаўроцікаў і малаткоў. Пад яе гаспадар прыстасаваў веранду ўласнай хаты. Аднак тут якраз і адбываецца той таямнічы, неспасцігальны цуд адушаўлення.

— Змоўч! — строга прыкрыкнуў Іван Нічыпаравіч на сабаку, які шалёна захлёбваўся, пагражальна нацягваючы ланцуг, і павёў мяне ў хлевушок, дзе захоўваюцца гатовыя рэчы.

Расчыніліся дзверы, і я аслупянеў, убачыўшы нагрувашчванне фантастычных істот. Вось маслабойка — няўрымслівы шкет, доўгі і танклявы. Дай яму волю, і суседзі пабягуць скардзіцца на яго пракуды. Вось бочачка для віна — сімпатычная таўстушка. У паўзмроку мне здаецца, што яна з абаяльным какецтвам падміргвае, шматабяцальна паводзіць у бакі звонкімі клубамі.

Вось баклага — гэткі вясновы інтэлігент. Было б у хлевушку святлей, дык ён ушчапіў бы на нос пенснэ і ўтыкнуўся б у томік вершаў Ясеніна. А там, у кутку, — двухсотлітровы цэбар, чымсьці падобны на былiннага Ілью Мурамца.

Іван Нічыпаравіч з няспешным натхненнем выточвае свае вырабы, даводзіць іх да неймавернай зграбнасці, сапраўднай эстэтычнай гармоніі. Кожная дошчачка вышчана, падагнана з такой любоўю, якой, напэўна, хапіла б сагрэць чалавецтва. Зразумела, ён працуе як бы для сябе. Аднак ёсць у ягоных мазолістых далонях нешта яшчэ — нейкая незразумелая сіла, якая адрознівае проста ўзорнага рамесніка ад творцы, мастака.

Нарадзіўся І. Магілявец тут, у Крупеніках. Схільнасць мудрагеліць з дрэва розныя рэчы перадалася яму, бадай, па спадчыне — ад бацькі. быў Нічыпар Юр'евіч выдатным цесляром. І пасля Вялікай Айчыннай вайны, падчас якой вёску амаль поўнасцю спалілі акупанты, ён пабудаваў не адну хату.

Скончыўшы сем класаў, Іван паступіў у 1948 годзе ў Бабруйскае вучылішча і атрымаў спецыяльнасць сталяра-чырванадрэўшчыка. Пасля да арміі працаваў на Віцебскай мэблевай фабрыцы. Кіраўніцтва прадпрыемства высока ацаніла здольнаці хлопца і даручыла яму выконваць важны заказ — камплект мэблі для Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта.

А ў 1968 годзе Івана Нічыпаравіча запрасілі ва Урэцкую сярэднюю школу № 2 — настаўнікам працы і загадчыкам вытворчых майстэрань.

Так, беларусы спрадвеку карысталіся няхітрымі прыладамі: маслабойкамі, кубёлкамі, дзежкамі, бочкамі. Колькі іх — сведак сівой даўніны — захоўваецца ў музеях! Ці не з такога кубка прыхлёбваў некалі медавуху праслаўлены волат Якаў Палачанін? Ці не з такой баклагі наталяў некалі смагу Тадэвуш Касцюшка? З гадамі ўдасканальваліся тэхналогія вырабу, інструмент, а форма, форма засталася тая ж.

Дарэчы, вучыць І. Магілявец зрэдку працягвае і цяпер.

— Да мяне прыязджаў настаўнік з Паўстыня Слуцкага раёна. Тры месяцы займаўся, — дзеліцца гаспадар. — Ну і някепска напрактыкаваўся. А яшчэ некалькі разоў наведваліся два хлопцы з Салігорска. Праўда, нейкія бесталковыя: не паспелі нават азы асвоіць, а ўжо цікавяцца, колькі ім, дапусцім, за дзежачку людзі заплацяць.

— І навошта ім такі анахранізм? — я здзіўлена паціскаю плячыма.

— Э-э-э-э, не скажыце! — не згаджаецца гаспадар. — Чаму, напрыклад, у Францыі ці ў Італіі віно і сёння захоўваюць у дубовых бочках? Няхай бы ў жалезных або пластмасавых. Дык не! Таму, напэўна, што ад узаемадзеяння драўніны і напітка апошні набывае новыя адценні смаку, ён лепш набірае мацунак. А возьмем капусту, агуркі ці грыбы, — горача працягвае Іван Нічыпаравіч. — Засоліш іх у бочцы добрай, каб вады даліваць не даводзілася. Зусім іншы смак! А хрумсцяць як!

І гаспадар тут жа з захапленнем прачытаў мне невялікую лекцыю пра ўласцівасці розных парод дрэў. Маўляў, з таго ж дуба бочачку для мёду не зробіш. Бо мёд сушыць гэты матэрыял. Толькі з ліпы! Яліну ж можна пусціць на цэбар. Груша на дэкаратыўныя вазы згодзіцца.

— А матэрыял? Матэрыял дзе бераце?! — пытаю пад канец гутаркі.

— Як дзе? — усміхаецца І. Магілявец. — У лесе. Я яго выпісваю ў лясніцтве, як іншыя выпісваюць дровы.

Так, імі можна прапаліць у печы і абагрэць на ноч хату. А можна іх ажывіць, напоўніць духоўным зместам, эстэтычнай каштоўнасцю. І тады тыя "дровы" сагрэюць сэрцы не аднаму пакаленню людзей. Безумоўна, другое значна цяжэй. І ўсё ж сапраўднаму творцу па сілах.

**Сяргей КВІТКЕВІЧ.**

На здымку: крупеніцкі бондар Іван МАГІЛЯВЕЦ дэманструе свае вырабы.

**Фота Віктара НАГОРНАГА.**

ПРАДСТАЎЛЯЕ «LA SANDR»

«КЕ
ДУ

ГАВОРАЦЬ ПРА Леаніда
ПАКАРЫЛА ТВОРЧАСЦЬ

З АРХІВА

**14 верасня 1930 года.** Як ва ўсякім амаль народзе, які знаходзіўся пад прыгнётам іншага больш моцнага народа, які праследаваў яго мову і нацыянальнасць і стараўся яго дэнацыяналізаваць, пасля звяржэння гэтага ярма і здабычы поўнай волі для сваёй мовы, з'яўляецца ў большай ці меншай ступені нацыянальны шавінізм, так адбылося і ў беларускім народзе.

Пасля звяржэння рэвалюцыяй царскага рабства, вызвалення Беларусі бальшавікамі ад розных іншаземных акупацый, узвядзення яе ў БССР, з прызнаннем беларускай мовы дзяржаўнай, пасля адкрыцця масы ніжэйшых і сярэдніх беларускіх школ, а таксама значнай колькасці вышэйшых беларускіх навучальных устаноў, якіх да гэтага часу наогул не існавала ў ёй, пасля росквіту беларускай літаратуры ў многіх асоб беларускай інтэлігенцыі, што грунтаваліся пераважна каля вышэйшых вучоных і навучальных устаноў, як Інбелкульта, потым Акадэміі навук і іншых, закружылася ад поспехаў галава і яна стала захапляцца беларускім нацыянал-шавінізмам, ставячы вузканацыянальныя інтарэсы вышэй за агульнадзяржаўныя, упадаць у контррэвалюцыйны нацдэмакратызм, што ішоў уразрэз з генеральнай лініяй партыі.

Першыя яркія праявы такога беларускага нацыянал-дэмакратызму дэманстратыўна выявіліся ў 1926 г. у час склікання Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускай арфаграфіі і азбукі, калі зала клуба К. Маркса, дзе павінна было праходзіць урачыстае адкрыццё канферэнцыі ў прысутнасці замежных вучоных дэлегатаў і шматлікай публікі, дэкарыравана была толькі ў беларускім нацыянальным колеры (белы з светла-чырвоным, не помню добра, які ўверсе, а які ўнізе, а змешчаны там партрэт У. І. Леніна быў закрыты ці зняты, не ведаю дакладна).

Хто і па ўказанню каго дэкарыраваў так залу, не ведаю, але адказнасць за гэты контррэвалюцыйны акт падае на членаў Прэзідыума Інстытута беларускай культуры, якія павінны былі не дапусціць гэтага.

Далей беларускі нацыянал-дэмакратызм адбіўся на работах Тэрміналагічнай камісіі, якая потым назвалася Інстытутам беларускай навуковай мовы Акадэміі. У даволі многіх выдадзеных гэтай камісіяй тэрміналагічных слоўніках па розных галінах навук замест грамадскіх рускіх, замежных грэка-лацінскіх ці заходнееўрапейскіх тэрмінаў для беларускай мовы шукаліся такія, якія не былі б падобныя на вышэйпамянёныя. Дасягалася гэта ці адшукваннем якіх-небудзь беларускіх глухіх, мала каму вядомых, больш-менш падыходзячых правінцыялізмаў, ці даслоўным перакладам тэрмінаў
словамі і выдумвані
маў, часта недарэчн
це, прыняццем адпа
кіх ці чэшскіх сло
арыентацыя) усё гэт
собіць, аддзяліць бел
ву ад рускай. На гэта
друкаваных рэцэнзія
ся.

Так як ворагі і н
ларускай мовы:
кадзяржаўныя шаві
адмаўляюць белар
паказваючы яе, пер
ванай паланізмамі
воркі, а другія — са
фікаван-* польскай
выпрац ;ы літар
ларускай мовы, дл
большага адрознен
памянёных моў, бо
васці існуе тэндэнцы
меры магчымасці
тычных форм і сінт
ротаў, уласцівых ру
кай мовам, і шукаць
хаця б архаічныя ці
сюджаныя.

Тэндэнцыю гэтую
грэшны, хаця на пра
яшчэ нідзе не прымя

## Браніслаў ЭПІМАХ-ШЫПІ

АДЧУВ

чу я гэта няправільн
еццa нацыянальны ш
тэгар на адмаўлян
тэндэ ыі: мовы пав
ца між сабой, перак
а не раз'ядноўвацц
ным чынам.

Беларускі нацыя
нізм выявіўся яшчэ
новай тэорыі аб па
ларускай мовы. За
радаслоўнага дрэва
ў лінгвістыцы, па я
вянская мова адпаве
ным славянам распа
на тры галіны: на па
ходнюю і ўсходнюю
на новым сваім мес
разгалінаваліся, дыс
ліся на цяпер існуюч
піліся за Шмітаўскую
лі, вяшчальнікамі
прафесар Бузук,
першую тэорыю за

Па тэорыі гэтай з
прамовы выхлёстван
сова хвалі, якія стан
нымі мовамі, так шт
між імі аднолькавы
славянскай прамова
хваля балгарская,
быць, польская, а
ларуская, чэшская,
славацкая, украінск
усімі, значыць, гэт
якія непасрэдна пахо
агульнай крыніцы,
роднасная сувязь,
з'яўляецца яўным а
беларуская мова ад
насная з сербскай, ч
мі, як з велікарускаі
Тэорыя гэтая добра
тычных даследаван
дзе яна з поспехам
няцца, тут жа з'яўл
нал-шавіністычнай,
ваць відавочную вялі
беларускай мовы

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 5, 6.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### РЭХА БЕЛАРУСКІХ КАЛЯД У БЕЛАСТОКУ

У самым канцы студзеня зведаў я радасць і задавальненне, атрымаўшы ліст з Беластока. Аўтар пісьма — вядомы ў Падляшшы журналіст і грамадскі дзеяч Міхась Хмялеўскі. У свой час ён узначальваў праўленне Беларускага грамадскага культурнага таварыства (БГКТ), а цяпер — старшыня рэвізійнай камісіі гэтага аб'яднання.

Акрамя навін прыватнага характару, мой верны сябра расказвае і пра грамадскія справы. На гэты раз Міхась падзяліўся са мною радасцю з нагоды ўпершыню праведзенага ў Беластоку конкурсу вучняў пад назвай "Звязда і калядаванне". Умовы яго былі такія: дзесяці-пятнаццаціхвілiннае выступленне на беларускай мове з паказам калядных абрадаў. А мэта — прапаганда і распаўсюджанне традыцый мясцовых беларусаў, што звязаны з Калядамі і Новым годам. Арганізавалі ж конкурс Галоўнае праўленне БГКТ і праваслаўнае брацтва святых Кірылы і Мяфодзія.

Удзельнічалі ў конкурсе 13 калектываў. У іх выкананні прагучала ў зале шмат калядных песень, у тым ліку быў твор на словы нашага агульнага сябра Віктара Шведа. І ўсе гурты паказалі высокі ўзровень мастацкага майстэрства. Гран-пры атрымаў калектыў пачатковай школы ў Кляшчэлях, адзначаны таксама вучні з Ласінкі, Новага Корніна, Бельска Падляшскага, Аўгустова і Беластока.

Захапленне абрадавымі традыцыямі праваслаўя і беларускасці выказалі на конкурсе Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Мікалай Крэчка, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ, пасол польскага сейма Ян Сычэўскі і іншыя афіцыйныя асобы.

Такія навіны, мяркую, прыемныя для кожнага беларуса.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

## З ПОШТЫ Яўгена ЛЕЦКІ

Шчыра Вам дзякую за сьвяточныя віншаваньні, а таксама за кніжку "Беларусь"... Выгляд кніжкі вельмі прыгожы і зьмест таксама. Ясная рэч, пакажу яе ўсім і буду прапаноўваць яе набыць.

У сакавіку мы, беларусы з усёй Англіі, зьбіраемся ў Лондане, і тады будзе добрая нагода прадставіць кніжку. У Лонданскай бібліятэцы, напэўна, ужо маюць некалькі экземпляраў. У нас тут уся публікацыя: кніжкі, часопісы, газеты — ідуць праз бібліятэку, і кожны можа карыстацца імі.

Прабачце мне, што я занядбала з адказам, а гэта таму, што як адразу не адпішаш, то так яно цягнецца на пазьней. А другая праблема ў тым, што гэта лета я была вельмі занятая і мала калі з'яўлялася дома, выязджала то да аднаго сына, то другому дзяцей глядзела і ў грамадскім жыцці мела вялікія праблемы. Часта трэба было быць у Лондане, што на мае сілы крыху зашмат. Здароўе ўжо не тое, што калісь было. Мы, беларусы старой эміграцыі, ужо ўсе пенсіянеры, і ў кожнага свае праблемы, найбольш са здароўем.

Спадару Ясьвіловічу перадам Ваша пісьмо, бо маю намер паехаць у тыя мясціны, калі ўсё пойдзе добра.

З вялікай павагай да Вас
**Л. МІХАЛЮК.**

Англія.

## У ВЯНОК РОДНАГА СЛОВА

# «КЛЯВАЦЬ НОСАМ» ЦІ «ВАДЗІЦЬ ДЗЯДЫ»?

Фразеалагізмы адлюстроўваюць характар народа, яго гісторыю, традыцыі, звычаі, тэмперамент. Правільна і да месца ўжыты фразеалагізм надае мове непаўторную самабытнасць, многія з іх звязаны з міфалагічнымі і рэлігійнымі ўяўленнямі.

Паколькі беларуская і руская мовы блізкароднасныя, многія міфалагічныя вобразы ў іх агульныя. Некаторыя персанажы проста блізкія. Разам з тым выяўляецца і самабытнасць кожнай мовы і культуры. Большасць фразеалагізмаў народнага паходжання не перакладаюцца. Для перадачы на іншую мову падбіраюцца эквівалентныя выразы. Мяне зацікавіў выраз з рускай мовы "клевать носом", што азначае драмаць седзячы, час ад часу ківаючы галавой ці ўсім корпусам уперад-назад, што выклікае ва ўяўленні вобраз птушкі, якая клюе не спяшаючыся. Гэты ўнутраны вобраз падтрымліваецца лексемай "клевать". У беларускай мове мы знаходзім наступныя эквіваленты: "табаку важыць", "акуні цягаць", "носам кляваць", што цалкам супадае з рускім эквівалентам і "дзяды вадзіць". Найбольш цікавы беларускі эквівалент "дзяды вадзіць". Ён звязаны з асаблівасцямі беларускай культуры. Дзяды — нацыянальнае беларускае свята, памінальныя дні ўсіх памерлых. На Беларусі існуе павер'е, што памерлыя не знікаюць бясследна, душы іх жывуць у іншым свеце, але не парываюць са светам жывых. Памінальны стол робяць багатым, рэшткі яды пакідаюць на стале духам. Паспрабаваць трэба ўсе стравы, каб не пакрыўдзіць дзядоў. За сталом сядзяць доўга, гавораць і ўспамінаюць усіх памерлых. Лічыцца: хто першым устане з-за стала — той першым памрэ. Магчыма, адсюль і ўзнік гэты фразеалагізм "дзяды вадзіць" — драмаць, седзячы, пасля добрага застолля, не жадаючы ўстаць першым. Пачуццё ўрачыстасці, калі нельга працаваць, звязана са спакоем, бо ўсё зроблена напярэдадні.

У гэтым выпадку рускаму фразеалагізму ў беларускай мове адпавядаюць чатыры, сярод якіх "дзяды вадзіць" стаіць асобна. У аснове трох — бытавая семантыка, у апошнім — свята, мноства прыгатаваных страў. Гэта мноства падтрымліваецца прымаўкамі, шырока распаўсюджанымі ў беларускай мове: "як на Дзяды", "не заўсёды яды як на Дзяды, а працы як у нядзелю", "не заўсягды як на дзяды", "захацеў двойчы дзедаваць"... Разам з тым у беларускім фразеалагізме захоўваецца той жа вобраз "клевать носом" — "носам кляваць". Ці з'яўляецца ён запазычаным, вызначыць цяжка. Магчыма, гэты фразеалагізм узяты з некалі агульнай мовы, таму і сустракаецца і ў беларускай, і ў рускай. А вось словазлучэнне "вадзіць дзяды", безумоўна, спрадвечна беларускае, якое больш вобразна перадае не толькі стан санлівасці, але і ўнутранае адчуванне дабрабыту, супакаення, чаго няма ў адэкватным выразе рускай мовы.

Спрадвечна беларускія фразеалагізмы — залацінка беларускай мовы. Яны ўтварыліся на падставе гістарычных фактаў, побыту, традыцый, легенд і павер'яў беларускага народа. Беларуская фразеалогія яшчэ недастаткова вывучана. Пра некаторую частку фразеалагізмаў нельга катэгарычна сцвярджаць, з'яўляюцца яны самабытнымі ці запазычанымі, агульнаславянскімі ці агульнаўсходнімі, агульнымі ў дзвюх ці больш славянскіх мовах. І гэта надае асаблівую цікавасць іх асэнсаванню.

**Таццяна БУЧЭЛЬ,**
**магістр педагагічных навук, выкладчык Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта і беларускай нядзельнай школы.**

Латвія.

## ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ІЗРАІЛІ

● **Эмануіл ІОФЕ,** *акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.*

Аляксандр **Гурэвіч** нарадзіўся ў горадзе Старыя Дарогі ў 1952 годзе. У 1975-м скончыў лячэбны факультэт Мінскага медыцынскага інстытута. Працаваў анестэзіёлагам-рэаніматолагам у Магілёве.

У 1990 годзе ён з жонкай і дзецьмі прыехаў у Ізраіль. Галоўная прычына ад'езду з Беларусі — адмоўныя вынікі чарнобыльскай катастрофы. З лютага 1991 года ён пачынае працаваць урачом-анестэзіёлагам у бальніцы горада Наарыя. У 1997-м Гурэвіч здаў экзамен для атрымання звання "урач-спецыяліст".

Жонка Аляксандра — Людміла **Гурэвіч** (Дворкіна) у 1976 годзе скончыла Магілёўскае музычнае вучылішча па спецыяльнасці "фартэпіяна", а ў 1983-м — з адзнакай музычна-педагагічны факультэт Мінскага пэдінстытута. Працавала па сваёй спецыяльнасці ў Магілёве.

На другі дзень пасля прыезду ў Ізраіль Людміла Гурэвіч пайшла мыць посуд у начны рэстаран за 5 шэкелей у гадзіну (1 долар — 4 шэкелі). Паралельна наладжвала канцэрты. Праз тры месяцы ў яе з'явіўся першы вучань па музыцы. Людміла пайшла на курсы настаўнікаў музыкі. З 1993 года працуе настаўніцай музыкі ў сярэдняй школе. Два разы на тыдзень едзе праводзіць заняткі з чэркесамі.

У Аляксандра і Людмілы Гурэвіч двое дзяцей — Дзмітрый, 1982 года нараджэння — вучань школы марскіх афіцэраў і дачка Ганна, 1986 года нараджэння — вучаніца 7-га класа, якая ведае англійскую і іспанскую мовы, іўрыт, а цяпер вучыць рускую мову.

Барысаўчанін Марат **Мільман** у 1980 годзе скончыў Беларускі інстытут фізкультуры. Тады яму быў 21 год. Працаваў дырэктарам спартыўнай школы пры ДСТ "Лакаматыў" па цяжкай атлетыцы. З 1994 года ў Ізраілі. Спачатку быў памочнікам электрыка ў горадзе Бат-Яма. Затым Мільман працаваў у фірме, якая займалася гандлёвымі здзелкамі з Расіяй. З 1997 года ён прыватны прадпрымальнік, саўладальнік фірмы па вытворчасці спіртных напояў, якая размешчана ў Бат-Яме.

Былы мінскі інжынер Яўген **Левін** працуе ў Ізраілі намеснікам начальніка аддзела буйной энергакампаніі "Хеврат-Хашмат" у Хайфе.

Радзіма Рыты **Марголінай** — старажытны беларускі горад Пінск. Пасля заканчэння гістарычнага факультэта БДУ ў 1972 годзе яна працавала старшым навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага музея беларускага Палесся ў Пінску. У 1996 годзе Рыта Марголіна рэпатрыіравалася на гістарычную радзіму. Спачатку каля года працавала "мітнадэвет" ("добраахвотнікам") у архіве Яд ва-Шэма. З 1997 года Марголіна атрымала стыпендыю Шапіры Міністэрства абсорбцыі і працуе супрацоўнікам архіва Яд ва-Шэма. Тым, хто прыязджае з Беларусі для працы з дакументамі гэтага мемарыяльнага інстытута, яна заўсёды аказвае дапамогу і падтрымку, дае карысныя парады.

У горадзе Афула ідзе добрая слава пра нашага земляка — мінчаніна Давіда **Камінскага**, выпускніка лячэбнага факультэта Мінскага медінстытута. З 1996 года ён працуе інспектарам Міністэрства аховы здароўя Паўночнай акругі па лячэнню наркаманіі (у Паўночную акругу ўваходзіць звыш 15 гарадоў). Калі параўнаць з Рэспублікай Беларусь, пасаду Давіда Камінскага можна вызначыць прыкладна так — галоўны нарколаг вобласці.

Разам з Давідам рэпатрыіравалася яго жонка — мінчанка Ларыса **Камінская**, выпускніца музычна-педагагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя Горкага. Цяпер яна працуе выкладчыцай музыкі ў сярэдняй школе. Дачка Алена скончыла ў Ізраілі школу з вельмі добрым паказчыкам (сярэдні бал 115), адслужыла армію і вучыцца цяпер у Хайфскім універсітэце па спецыяльнасці "сацыяльная работа". Яна атрымлівае аднаразовую стыпендыю ў памеры 2 500 шэкелей.

Іосіф **Рубінчык** нарадзіўся ў горадзе Беразіно Мінскай вобласці ў 1936 годзе. Ён скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут і тры гады працаваў у Бурацii. З 1962 года Рубінчык — старшы майстар і начальнік цэха Мінскага завода аўтаматычных ліній. Рэпатрыіраваўшыся на гістарычную радзіму, ён крута змяніў сваю спецыяльнасць. Зараз Іосіф Рубінчык жыве ў Іерусаліме і з'яўляецца адным з самых вядомых у краіне экстрасэнсаў. Ён удастоены чатырох дыпломаў. Рубінчык — лекар, біяэнергетык, фізіятэрапеўт. Ён займаецца мануальнай тэрапіяй і рознага роду масажамі. Іосіф Рубінчык лечыць практычна ўсе захворванні ўнутраных органаў, лёгкія і ныркі. Наш зямляк лячыў асобных хворых на адлегласці (з Нью-Йорка і Японіі).

Кіраўніком будаўнічай фірмы і кіраўніком беларускага зямляцтва ў Хайфе з'яўляецца мінчанін Арон **Цэйтлін**.

Нямала нашых землякоў працуюць у сродках масавай інфармацыі. Ураджэнка Віцебска Ала **Нікіціна** (Красінская) скончыла журфак БДУ і працавала на Віцебскім абласным радыё, яна галоўны рэдактар часопіса "Горизонт" (на рускай мове). Нікіціна жыве ў Іерусаліме.

Вядомае ў Ізраілі і імя нашага земляка — былога мінчаніна Рыгора **Трэстмана**, які калісьці працаваў у выдавецтве "Вышэйшая школа". Яго творы друкуюцца ў многіх выданнях. Р. Трэстман — літаратурны рэдактар кнігі былога прэм'ер-міністра краіны Беньяміна Нетаніяху. Ён прымае актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны як прадстаўнік акруговага кіраўніцтва адной з палітычных партый. Рыгор Трэстман неаднаразова наведваў Беларусь, выступаў па рэспубліканскім радыё.

Рыгор **Шмуленсон** нарадзіўся ў Мінску ў 1937 годзе. Ён скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, а потым Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў у родным горадзе ў розных праектных інстытутах. Яго апошняя пасада на беларускай зямлі — галоўны інжынер "Белграмадзянпраекта". У лютым 1992 года Рыгор Шмуленсон з сям'ёй рэпатрыіраваўся ў Ізраіль. Хачу звярнуць увагу чытачоў, што яму было 55 год — узрост крытычны. Да пенсіі яшчэ было далёка.

Праз паўгода пасля прыезду Рыгор Шмуленсон, які жыве ў горадзе Петах-Тыква, уладкаваўся на працу журналістам у мясцовую газету "Навіны тыдня" (на рускай мове). Сёння гэты чалавек — адзін з самых папулярных паэтаў-сатырыкаў краіны.

Жывучы ў Беларусі, Шмуленсон не мог выдаць ніводнай кнігі. Адна з іх тры гады праваляласа ў выдавецтве "Полымя". Цяпер Рыгор Шмуленсон — аўтар трох кніг: "Калі брыкае пегас" (1996), "Чацкі ў Ізраілі" (1998) і "Пегас брыкае другі раз" (Мінск, 1999). Будучы ў Ізраілі, ён прыняў удзел у конкурсе эпіграм, які праводзіла ў 1994 годзе Цэнтральнае тэлебачанне Расіі ў праграме "Пад знакам Задыяка". Шмуленсон стаў пераможцам гэтага конкурсу, яго эпіграмы зачытваліся ў перадачы клуба "Белы папугай". Ён часта выступае на літаратурных вечарынах у розных гарадах Ізраіля. Вершы паэта-сатырыка друкаваліся ў перыядычным друку ЗША і Расіі ("Бірабіджанер штэрн" ("Бірабіджанская зорка").

Рыгор Шмуленсон быў адным з заснавальнікаў партыі "Ісраэль баалія" (партыя олім (рэпатрыянтаў). Па выніках выбараў у муніцыпалітэт Петах-Тыквы ў 1998 годзе ён стаў членам камісіі па алії і абсорбцыі горада.

Майстар спорту па шашках Алена **Соркіна** нарадзілася ў Мінску. Яна скончыла матэматычны факультэт БДУ і працавала матэматыкам-праграмістам у ЦНДІТУ. Двойчы А. Соркіна была чэмпіёнкай СССР па рускіх шашках. Яна эмігрыравала ў Ізраіль у 1991 годзе, а праз 4 гады стала чэмпіёнкай Ізраіля па гэтаму віду спорту. Алена Соркіна працуе сёння праграмістам у фірме "Ісакар" у Тэль-Авіве.

Зусім нядаўна чэмпіёнамі Ізраіля па шахматах сталі мінчанін Барыс **Гельфанд** і віцяблянін Ілля **Смірын**.

Міжнародны гросмайстар Ілля Смірын рэпатрыіраваўся ў пачатку 1990-х гадоў і неаднаразова станавіўся чэмпіёнам Ізраіля. У 1996 годзе ён узначальваў зборную каманду Ізраіля на Сусветнай шахматнай алімпіядзе ў Ерэване.

Адзін з мацнейшых шахматыстаў свету, міжнародны гросмайстар Барыс Гельфанд рэпатрыіраваўся ў Ізраіль зусім нядаўна. У 1999 годзе гэты спартсмен па рэйтынгу займаў шостае месца ў свеце.

Вышэй у большасці выпадкаў прыведзены толькі станоўчыя факты. Безумоўна, ёсць нямала і адмоўных. У апошні час стала значна цяжэй з жыллём, уладкаваннем на працу па спецыяльнасцях, якія сёння тут пакуль непатрэбныя (перанасычэнне). Жыццё даражэе. (У першую чаргу, у Ізраілі добра дзецям і пенсіянерам). Перакваліфікавацца некаторыя не хочуць, а іншыя не могуць. Ёсць выпадкі, калі рэпатрыянты вяртаюцца назад — у родную Беларусь.

У час сустрэч нашых землякоў з аўтарам гэтых радкоў пераважная большасць цяперашніх ізраільцян вельмі цікавілася навінамі з Беларусі і выказвала пачуцці настальгіі па сваіх родных гарадах, па сваёй "малой радзіме" або родным куце.

Адчуваецца вялікая патрэба ў наладжванні цесных сувязей на дзяржаўным узроўні. Хаця існуюць традыцыйныя сяброўскія сувязі паміж некаторымі гарадамі Беларусі і Ізраіля, патрабуе большай актыўнасці дзейнасць таварыства "Беларусь-Ізраіль". Дзякуючы намаганням Ізраільскага пасольства ў Беларусі і пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль, у апошні час адбываюцца прыкметныя зрухі. Нядаўна аўтару гэтых радкоў давялося слухаць вельмі змястоўныя і цёплыя выступленні прадстаўнікоў нашага пасольства ў Ізраілі на прэзентацыі ў горадзе Петах-Тыкве кнігі былога мінчаніна Абрама Рубенчыка "Правда о Минском гетто".

Вялікую працу па азнаямленню жыхароў Мінска і ўсёй рэспублікі з культурным жыццём Ізраіля праводзіць Ізраільскі культурны цэнтр (г. Мінск, вул. Уральская, 3). Яго мерапрыемствы з задавальненнем наведваюць не толькі яўрэі, але і прадстаўнікі розных нацыянальнасцей — беларусы, рускія, палякі, украінцы, татары і іншыя.

На жаль, не атрымала працягу на Беларускім тэлебачанні і Беларускім радыё папулярная ў свой час праграма "Мост", якая знаёміла жыхароў Беларусі з жыццём ізраільцян.

Мне здаецца, што грамадскім арганізацыям нашай краіны, якія займаюцца культурнымі сувязямі з суайчыннікамі і ўраджэнцамі Беларусі, рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" неабходна наладзіць прамыя сувязі са сродкамі масавай інфармацыі Ізраіля. Гэта будзе ўзаемакарысна.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 4, 6.**



## З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

### Алесь ДУДАР (1905—1937)

**У гэтым годзе вядомаму беларускаму паэту і перакладчыку Алесю Дудару споўнілася б 95 гадоў. Адзін з заснавальнікаў першага ўсебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк", ён стаў і адным з першых пакутнікаў таталітарнага сталінскага рэжыму. Яго лідэрская натура, здольнасць павесці за сабой іншых не давала "нкусаўцам" спакою. Хадзіў па руках знакаміты верш Алеся Дудара "Пасеклі наш край папалам":**

**Пасеклі наш край**
**папалам,**
**Каб панскай вытаргаваць**
**ласкі.**
**Вось гэта — вам,**
**А гэта — нам,**
**Няма сумлення ў душах**
**рабскіх...**

**Плююць на сонца**
**і на дзень.**
**О, дух наш вольны,**
**дзе ты, дзе ты!**
**І мураўёўскі б гальштук**
**удзець,**
**Нашчадкам мураўёўскім**
**гэтым...**

**Паэта тройчы арыштоўвалі, а ў "варфаламееўскую ноч" 29 кастрычніка 1937 года разам з іншымі васемнаццаццю беларускімі і яўрэйскімі літаратарамі расстралялі.**

**У пасьлясталінскі час зборнікі вершаў А. Дудара некалькі разоў перавыдаваліся. Пра паэта пісалі Р. Бярозкін, Н. Гілевіч, А. Звонак, С. Шушкевіч шмат іншых пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў, даследчыкаў. Таму паэтычная спадчына паэта вядомая. Але хацелася пазнаёміць чытача з іншым Алесем Дударом — празаікам.**

**Леанід МАРАКОЎ.**



*Выязная рэдакцыя газеты "Савецкая Беларусь" на будаўніцтве аўтамагістралі Мінск—Масква. Уверсе першы справа Алесь ДУДАР. 1934 г.*

**Алесь ДУДАР**

# МУРАЧКА

***(Навела)***

Мурачка ня ведае, што рабіць. Перад Мурачкай мабыць першы і апошні раз у жыцьці стала рашучая праблема, якая заўсёды ў свой час паўстае ў жыцьці кожнай дзяўчыны. Ніводная матка ніколі не наважыцца расказаць улюбёнай дачушцы суровую праўду пра жыцьцё. Ніводная матка ня скажа дзяўчыне, як калісьці перастала быць дзяўчынаю сама. Моладзь заўсёды вучыцца жыць сама, і таму цяпер перад Мурачкай так востра паўсталі такія новыя і нечаканыя пытаньні: каторы лепшы?

Я не скажу, на якой вуліцы сустрэў я Мурачку. Калі гэта было? Мабыць, тады, калі крамкі на Нізкім рынку перажывалі свой мядовы месяц, калі абрыдлыя тараны сустрэлі сабе моцнага канкурэнта ў вобразе амэрыканскіх пасылак і на Савецкай вуліцы адна за аднэй пачалі адчыняцца прынадныя крамы з пахкім мылам, ружовымі падвязкамі і самымі моднымі колеру "beige" панчохамі. Мурачка рана-раненька паднімалася тады і сьпяшалася, каб да дзевятай гадзіны пасьпець у белы будынак на Чырвонаармейскім завулку. Яна сьпяшалася сесьці за сваю машынку раней, чым прыдзе Іван Іванавіч Дзямідаў, ад'ютант штабу 11-й брыгады. У Івана Іванавіча свае асаблівасьці. Іван Іванавіч быў некалі ротным пісарам, мабыць таму Іван Іванавіч такі акуратны і на працу позьніцца роўна на столькі, каб сам начштаба прышоў на поўгадзіны пазьней за яго: службовы этыкет — штука тонкая, але Іван Іванавіч даўно пасьпеў яго ўсвоіць. Іван Іванавіч прыходзіць у канцэлярыю штаба і зоркім вокам аглядае ўсіх супрацоўнікаў. Іван Іванавіч добра знае сваю работу, а яшчэ лепей задачы Чырвонай арміі. На ўсіх сходах, дзе ваенком Лексікаў, быўшы каваль, а сёньня яго непасрэдны начальнік, робіць даклад аб ганебных учынках Антанты, на ўсіх сходах Іван Іванавіч сядзіць у трэцім радзе непасрэдна за начальнікам штаба. І ў самым патэтычным месцы прамовы ваенкома пукатыя вочы Івана Іванавіча наліваюцца гневам і помстаю, а гарбаты нос паварачваецца направа і налева, як-бы шукаючы супрацоўнікаў, маючых слова супроць. Але спакойна сядзіць з правага боку старэйшы дзелавод Волкаў і з левага боку флегматычна шморгае носам старэйшы перапісчык Шаляпін. Гэтага нават самае прозьвішча прымушае трымацца проста і сьціпла і нос трымаць па ветру, таму на твары яго застаецца вечны выраз зьбянтэжанасьці і гатоўнасьці да нечаканага. А Мурачка сядзіць у самым апошнім радзе. Яна спакойна сядзіць, і нават Іван Іванавіч яе асабліва ня пужае. Яна ўжо некалькі разоў заўважыла, што Іван Іванавіч з вялікаю ўвагаю сачыў за тым, як яе пальчыкі бегаюць па замусоленых клавішах штабной машынкі. Гэта яе, Мурачкі, сакрэт, але яна гэта даўно ўжо заўважыла. Але Мурачка добра разумее, што ў начальства зусім выключнае становішча; калі што якое, дык яно заўсёды знойдзе і час і словы. І таму кожную раніцу так сьпяшаецца Мурачка, каб пасьпець у канцэлярыю хоць на паўгадзіны раней за Івана Іванавіча. І калі прыходзіць Іван Іванавіч і арлiным вокам аглядае сваю канцылярыю — Мурачка заўсёды на сваім месцы і заўсёды праца ў яе аж кіпіць. Нават пануры Волкаў і той ня міне Мурачкі, каб ня даць ёй якую-небудзь тэрміновую работу. Дыктуе заўсёды ён сам.

Іван Іванавіч высокі і зграбны. У Івана Іванавіча чорныя пукатыя вочы, у якіх заўсёды гараць такія прынадныя абяцаючыя іскаркі. І валасы ў яго так прыгожа завіваюцца на скронях — цёмныя такія валасы. Іван Іванавіч з кожным днём усё часьцей спыняецца каля Мурачкінай машынкі; больш таго — няраз ужо застаўляў ён Мурачку на вячэрнія заняткі і сам дыктаваў ёй тэрміновыя паперы. Больш таго; ніхто гэтага ня ведаў, але з нейкага часу па суботах, калі надыходзіў час ісьці да капцёра і атрымліваць селядцы, алей, крупу ды іншыя страўныя рэчы — Іван Іванавіч пасьпяваў у той-жа час і далікатна падносіў Мурачкін паёк аж да самай Мурачкінай хаты ў самым канцы Кандуктарскай вуліцы. А гэта ўжо нешта азначала. І Мурачкіна сэрца бадай упершыню пачало біцца нейкім новым, неспрабаваным, але вядомым па раманах пачуцьцём.

* * *

Той, хто хадзіў у тыя годы ў наш чыгуначны клюб, добра павінен помніць Мурачку. У Мурачкі былі такія чорныя задзёрыстыя вочкі, прыгожая фігурка і дробненькія завіточкі чорных валасоў. Калі канчаўся спэктакль ды пачыналіся скокі, у Мурачкі ратунку ня было ад кавалераў. Сьмяецца Мурачка так, што можа толькі ў глухога сэрца не зашчымела-б ад гэтага сьмеху, што такі быў падобны да звону дробных званочкаў.

Ня было ў нашым канцы дзяўчыны прыгажэй за Мурачку. І калі вярнуўся ў родны горад Пятрусь Крымчонак, сын Мурачкінага суседа машыніста — не пазнаў ён яе адразу. Пятрусь яшчэ быў у вайсковым адзеньні. У родны горад папаў ён цяпер, таму што ў горадзе былі камандныя курсы і Пятруся проста з апошняга рэйду па басмацкіх кішлаках паслалі вучыцца.

— Ты, Пятрусь, ня маеш права так пакінуць армію. Калі станеш патрэбен ізноў, дык павінен умець камандаваць другімі. Гэта, брат, мала толку з таго, што сам умееш нарывацца на кулі... Панюхаў ты пораху даволі — панюхай і кніжкі. І глядзі — калі сустрэну цябе потым не камандзірам, дык мала табе ня будзе...

Так казаў ваенком, і Пятрусь разумеў яго і ведаў, што трэба вучыцца. У школе сароміліва хаваў ад сяброў свой ордэн Чырвонага сьцягу — чым ён быў вінен, што толькі адзін ён і меў гэту ганаровую адзнаку.

І калі апынуўся Пятрусь у родным горадзе, пацягнула яго туды, на акраіну, дзе гудзяць паравозы, дзе бліскучыя рэйкі зьбягаюцца ў дзьве каляіны і ўцякаюць паміж высокіх насыпаў далёка-далёка за горад. Толькі што скончыліся фронты, яшчэ не змаўкала ў вушах агіднае гудзеньне куль, аглушаючы гул гармат, ды хлябусьценьне шабель у целах ворагаў: Пятрусь — кавалерыст і мабыць таму асабліва пацягнула яго ў гэты ціхі завулак, дзе людзі ня чулі нават і паху конскага. Там і крывенькая хатка, і сабачка, і бацька вечна замурзаны і пратэстуючы, і маці спачуваючая і ласкавая.

Першы раз Пятрусь нават і не спазнаў быў роднай вуліцы. Такою ўбогаю і шэраю здалася яму яна. Такое адчуваньне ведае кожны, хто, павандраваўшы па многіх гарадох, пабачыўшы многа, хай сабе і горшых вуліц, вернецца, нарэшце, у свой горад, на тую вуліцу, дзе пражыў пачатак жыцьця... Маці спачатку не пазнала, потым кінулася абнімаць, цалаваць і нават плакаць пачала. Бацьку старога, відаць, таксама ахвота разьбірала заплакаць, але гонар мужчынскі перамог, і сына сустрэў ён нават крыху сурова.

— Ну, апавядай, дзе быў, што бачыў...

Пятрусь пачаў апавядаць... Доўгая гісторыя...

— Так, гэта добра, што за Саветы... Яно, каб не зманіць, дык і мы трошкі дапамагалі...

Пятрусь ужо чуў, як бацька пры адходзе палякаў падбухторыў сяброў да забастоўкі і выратаваў усю маёмасьць дэпо.

— Маладзец, сынок. Маці вось енчыць усё: прапаў, ды прапаў. А я кажу — калі прапаў, дык за дзела.

Бацька старанна закручвае "сабачую ножку".

— Што вучышся цяпер, дык гэта добра. Але трэба, брат, канчаць хутчэй. Я ўжо старэць пачынаю — час і табе мяне падмяніць на часіну...

Мурачка сустрэла Пятруся, як належыць дарослай дзяўчыне. Мала чаго ня было там калісьці. То-ж яны дзеці былі яшчэ — і гэта трэба прыняць пад увагу. Людзі растуць, і жыцьцё меняецца. Аднак-жа далікатнасьці трэба трымацца.

— Будзьце знаёмы: Іван Іванавіч Дзямідаў, а гэта мой сябра з дзяцінства — Пятрусь... Пётр Максімавіч... і Мурачка вінавата ўсьміхнулася. Яна забылася Пятрусёва прозьвішча — на іх вуліцы ніхто суседавага прозьвішча ня помніў. Іван Іванавіч далікатна ўсьміхнуўся і зусім не зьвярнуў увагі на Пятруся. Гэта-ж не канкурэнт. Якісьці там абдзёрты курсант ды супроць яго, Івана Іванавіча; і ён задаволена аглядзеў свае высокія франтаватыя боты. Справа была ў чыгуначным клюбе, і зараз-жа аркестр заграў польку-какетку і зараз-жа Іван Іванавіч лоўка закруціў Мурачку па напоўненай пылам залі. І ні ён, і ні Мурачка зусім не зьвярнулі ўвагі на тое, што пара цьвёрдых шэрых вачэй з-пад цёмна-зялёнага шлему так прагна ўглядаліся ў кожны рух прыгожай машыніcткі з штабу 11-й брыгады.

* * *

Кожную вольную гадзіну выкарыстоўваў Пятрусь, каб пайсьці на сваю ціхую вуліцу. І кожны раз ён спатыкаў Мурачку. І кожны раз Мурачка вінавата паглядала на яго: яна сьпяшалася на вячэрнюю работу і ніяк, ні на адну хвіліну ня можа застацца пагуляць з Пятрусём — сваім старым добрым сябрам. І ў канцы другога месяца, калі Пятрусь, у якога, нягледзячы на столькі пераможных боек, так палахліва ёкала сэрца, расказаў Мурачцы пра нешта патаемнае, што так трывожыла яго сэрца, Мурачка адказала:

— Ты ня крыўдуй, Пятрусь, але гэтага ня можа быць. Я ўжо абяцалася аднаму чалавеку — ты яго знаеш — гэта Іван Іванавіч — наш ад'ютант штаба...

І, пачынаючы з другога дня, Пятрусь яшчэ крапчэй узяўся за навуку. І так часта паўставаў перад яго вачыма вобраз любай дзяўчынкі — не тое, што толькі што адкінула яго пачуцьці, а тае даўнейшае, маленькай чарнавокай і жвавай, што так любіла дражніць яго і так смачна чмякала накрадзеныя ім з суседняга саду яблыкі. Успамінаў, як падаюць яблыкі, як хрусьцяць яны на маленькіх белых зубах.

* * *

Іван Іванавіч быў стройны і высокі. У Івана Іванавіча кучаравіліся валасы на скронях, і тонкая гарбулінка на яго носе надавала яму такі шляхэтны выгляд. Мурачка не магла нарадавацца на свайго мужа і яе толькі страшэнна дзівіла, чаму ён так ахаладзеў да яе ў апошні час. Яна гублялася ў дагадках. Яна ўжо больш не працавала ў штабе, але перад яе вачыма мітусіўся твар другой Мурачкі, якой Іван Іванавіч можа таксама дыктуе па вечарам тэрміновыя паперы і ў якой можа такія самыя кудзеркі вакол твару і такія самыя бліскучыя задзёрыстыя вочкі. Шмат чаго перадумала Мурачка.

І толькі тады зрабілася ясным усё, калі аднойчы ўвечары, вярнуўшыся дахаты ад маткі, застала пусты пакой і на вакне кавалак паперы, на якім было напісана:

"Выбачай, дарагая, мяне, але я, згодна ваеннай дысцыпліны і загаду нумар 1001-с, мушу выехаць у другі горад. Адрасу не пакідаю — гэта ваенны сакрэт. Калі памылкова захапіў твае рэчы — даруй.

Потым можа разьбярэмся".

Мурачка зразумела. Яна доўга сядзела на вакне і ўглядалася ў пустое маўклівае неба. А потым праплакала ўсю ноч. І толькі раніцою схамянулася і, адшукаўшы яшчэ кавалак паперы, дрыжачаю рукою напісала ліст. Адрас быў такі:

№-ым кав. курсы. Пятрусю Максімавічу Крымчонку.

**P. S. Захаваны правапіс арыгінала.**

*(Літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь". 1928 г. № 10).*

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ



**Самыя папулярныя эстрадныя конкурсы, канцэрты, маладзёжныя праграмы, падрыхтаваныя на Беларускім тэлебачанні, не праходзяць без удзелу заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Алены Спірыдовіч. Яе чароўная ўсмешка, прычоска "вожык", характэрны голас сталі своеасаблівым сімвалам нацыянальнай эстрады.**

**Беларусы ганарацца, што іх суайчынніцу запрашаюць адкрываць і весці міжнародныя кінафестывалі, юбілейныя ўрачыстасці і грандыёзныя шоу разам з прызнанымі майстрамі сцэны з Расіі, Украіны і іншых краін СНД. Заўсёды элегантная і абаяльная, яна працуе лёгка, свабодна, не ўступаючы ў прафесіяналізме сваім калегам.**

**Гутарка з Аленай Спірыдовіч планавалася даўно. Па дарозе на тэлестудыю, дзе дамовіліся пра сустрэчу, я пракручвала ў думках падрыхтаваныя пытанні. Ад хвалявання ўсё блыталася. Але калі я ўбачыла добразычлівую ўсмешку на твары сваёй гераіні, мой жах знік.**

# Алена СПІРЫДОВІЧ: «КАБ ЧОРНАЕ СТАЛА БЕЛЫМ – ДАЧАКАЙСЯ РАНІЦЫ»

**— Алена, якім быў ваш шлях на тэлебачанне?**

— Упершыню на тэлебачанне, у рэдакцыю перадач для дзяцей і юнацтва, я трапіла па размеркаванню пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Мая мама — тэлевізійны рэжысёр, тата — акцёр. У той момант, калі я стаяла перад выбарам прафесіі, тата выкладаў у тэатральным інстытуце. Каб выключыць пратэкцыю бацькоў, пайшла на журфак БДУ. Пасля заканчэння вучобы, калі мінуў нейкі час, адчула смак прафесіі журналіста і зразумела, што магу стаць лепшай. У цэлым, я вельмі ўпэўнены ў сабе чалавек.

Тэлебачанне — гэта дзяржава са сваімі законамі, этыкетам, нормамі паводзін. Спачатку мне здавалася, што працаваць тут вельмі лёгка. Пазней зразумела: за знешняй прыгажосцю, бесклапотнасцю ляжыць штодзённая карпатлівая праца. Каб нечага дабіцца, даводзілася працаваць дапазна. З той пары прайшло 15 гадоў, а я, як і раней, шмат працую, стараюся быць цікавай гледачу. А хто працуе "на сябе" і не думае пра гледача, рана або позна пакідае тэлебачанне.

**— Нядаўна мы бачылі вас у новым амплуа, у рэкламе. Як вы ставіцеся да рэкламы і да таго, што вядомыя людзі рэкламіруюць тавары і паслугі?**

— Рэклама беларускай нацыянальнай авіяцыйнай кампаніі — справа прыстойная. Я сапраўды часта карыстаюся паслугамі "Белавія", і пад тым, што было сказана ў рэкламе пра гэту кампанію, падпісваюся смела. Рэжысёр кліпа — мой муж, і мне было асабліва прыемна з ім працаваць.

Ад многіх прапаноў удзельнічаць у рэкламе я адмаўлялася, таму што не магу гаварыць, напрыклад, пра "катышкі" на адзенні або жаваць у кадры: нейкая мяжа для мяне існуе.

**— У гледачоў Беларускага тэлебачання ваш вобраз перш-наперш асацыіруецца з папулярным конкурсам маладых выканаўцаў "Зорная ростань". Ствараецца ўражанне, што ўся арганізацыйная праца кладзецца на вас. Ці праўда гэта?**

— Адна з асаблівасцей нашай працы — узаемавыручка. Адзін чалавек не можа зрабіць праграму, якім бы таленавітым ён ні быў. Над перадачай "Зорная ростань" працуе шмат людзей. Я толькі рэдактар і вядучая. Мне вельмі прыемна, калі на сцэну разам са мною выходзяць пачынаючыя маладыя людзі. Я дапамагаю ім з усіх сіл. Музычны кіраўнік конкурсу Алег Елісеенкаў — мой сябар. А працаваць з сябрамі лёгка і цікава.

**— Ці ёсць маладыя выканаўцы, якія могуць прэтэндаваць на вашу асобую ўвагу?**

— "Зорная ростань" задумана па сістэме музычнага універсітэта. У верасні-кастрычніку, калі ідзе праслухоўванне, мы набіраем курс моладзі, з якой потым працуем. Напрыклад, ёсць хлопцы і дзяўчаты, якія з намі ўжо пяць гадоў. За апошні год семярых запрасіў да сябе ў аркестр Міхаіл Фінберг. Цяпер яны салісты Дзяржаўнага эстраднага аркестра Рэспублікі Беларусь, але па-ранейшаму нашы выхаванцы. Я лічу, што будучыня ў беларускай эстрады ёсць. Індывідуальна нікога не выдзяляю. Усе для мяне дарагія па-свойму.

**— Што паўплывала на тое, што вы сталі тэлевядучай адной з найцікавейшых маладзёжных праграм Беларускага тэлебачанне "Бон-тон"?**

— Калі па праўдзе, гэта быў не мой выбар. Мой муж, — рэжысёр і аўтар праграмы Юрый Брэус — на працягу двух гадоў падбіраў для гэтай перадачы вядучых і не дапускаў мяне да яе з этычных меркаванняў. Але потым мы зразумелі, што будзе намнога зручней і лягчэй працаваць разам. Мой муж як аўтар перадачы шмат чытае, перабірае "кучу" матэрыялаў і робіць выбаркі для мяне, з якімі, як правіла, сутыкаюся ўжо на агучванні сюжэтаў.

Я бываю на ўсіх паказах мод, конкурсах мадэльных агенцтваў у Мінску. Многія з іх вяду сама. Але ў адборы калекцый удзелу не прымаю, лічу, што гэта мужчынская праца. Па мяккасці характару членства ў журы мне не падыходзіць. Я маю зносіны з мадэлямі, і ў мяне ўзнікаюць чыста чалавечыя сімпатыі да дзяўчат. Галоўнае не знешнасць, а эрудыцыя, інтэлект, манера зносін. Да таго моманту, калі дзяўчаты выходзяць на сцэну, у мяне ўжо ёсць свае фаварыткі.

**— Алена, як вам удаецца быць такой...**

— Усё залежыць ад настрою. Калі ў мяне вечарам канцэрт, я з самай раніцы пачынаю "песціць" у сабе добры настрой, таму што не маю права працаваць дрэнна. Калі я не выйду на сцэну са светлым пачуццём, то падману людзей, якія прыйшлі адпачываць. Свой добры настрой я павінна аддаваць зале, і тады адбываецца кантакт з гледачом. Рабіць гэта вельмі цяжка, але я люблю сваю працу і не памяняю яе ні на якую іншую. Аднак, калі б прыйшлося пражыць жыццё спачатку, як звычайна гавораць, у дробязях многае змяніла б, таму што не цярплю аднастайнасці — гэта сумна.

**— Скажыце, Алена, ці вядомая вам "зорная хвароба"?**

— Давайце паразважаем, што такое "зорная хвароба". У адносінах да людзей, сваіх калег я не стала ганарыстай, грубай або, напрыклад, перастала з імі вітацца. Я такая, якой была раней. Іншая справа, у мяне не хапае часу на нейкія другарадныя рэчы. З-за пастаяннага цэйтноту ў апошні час мне даводзіцца адмаўляцца нават ад некаторых дзелавых прапаноў. Таму мяркуйце самі...

**— Што б вы пажадалі маладым дзяўчатам, якія марац стаць тэлевядучымі?**

— Я жадаю, каб яны былі шчырымі, натуральнымі. Глядач бачыць, калі гэта не так, і часам бывае жорсткім. У нас вельмі цікавая, але і складаная праца.

**— Пра што вы марыце?**

— Па-першае, мару навучыцца вадзіць машыну. Я страшэнная мярзлячка, часам у халодную пору ўся мая зарплата ідзе на аплату таксі.

А галоўнае — удзяляць больш увагі родным і сям'і.

На развітанне Алена падаравала мне сваю візітную картку, таксама арыгінальную, як і яе гаспадыня. Чорна-белы дызайн. Замест лагатыпа — смешнае вараняня. На стандартным фармаце не было ўказана "заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, тэлевядучая, рэдактар і гэтак далей", проста Алена Спірыдовіч. А на адвароце — філасофскі афарызм, які гаворыць пра знакамітую тэлевядучую больш, чым пералічэнне заслуг і рэгалій: "Каб чорнае стала белым — дачакайцеся раніцы..."

**Гутарыла Вольга ДАЙНЭКА.**



*У час фестывалю "Славянскі базар у Віцебску".*

## АЛІМПІЙСКІ РЭЗЕРВ



Васемнаццаць гадоў дзейнічае ў Мінску спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву па сінхроннаму плаванню. Трэнерскі калектыў, які ўзначальвае старшы трэнер Нацыянальнай каманды Людміла Сянько, займаецца больш як з 250 выхаванцамі. Ёсць сярод іх майстры і міжнароднага класа. Да ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях у Сіднэі рыхтуюцца два беларускія дуэты. Першы ў складзе Таццяны Мяшковай і Анастасіі Саранцавай і дуэт — Наталля Сухарук і Крысціна Надзеждзіна. Хутка ім давядзецца выступіць на Кубку свету, які пройдзе ў красавіку ў Сіднэі. Будзем спадзявацца, што нашыя спартсменкі заваююць там спартыўныя ліцэнзіі, якія даюць права на ўдзел у Алімпіядзе, што адбудзецца ў верасні.

НА ЗДЫМКАХ: выступае дуэт у складзе Наталлі СУХАРУК і Крысціны НАДЗЕЖДЗІНАЙ; нацыянальная зборная Рэспублікі Беларусь у групавых практыкаваннях.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**



## КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Ручная каляска для перавозкі грузаў. 7. Асобны чалавек як член грамадства. 9. Той, хто выступае з пярэчаннямі, абвяржэннем чыіх-небудзь думак у час публічных дыспутаў, спрэчак. 11. Награвальны прыбор з помпай, якая падае газу ў гарэлку. 13. Той, хто займаецца выкананнем на сцэне твораў мастацтва. 15. Урачыстая хадзьба, рух людзей. 16. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху на чым-небудзь. 17. Асоба, якая праходзіць выпрабавальны стаж перад залічэннем на работу. 18. Выбарны начальнік у казацкіх войсках або паселішчах у дарэвалюцыйнай Расіі. 19. Дакладна ўстаноўленая расцэнка тавараў або размер аплаты працы і паслуг. 20. Адкладанні, у складзе якіх ёсць крупінкі, крышталікі карысных металаў або мінералаў. 23. Спецыяліст, які вырабляе скуры. 25. Фігура, утвораная двума прамянямі, якія выходзяць з аднаго пункту. 26. Гандлёвая палатка. 28. Да рэвалюцыі (у Беларусі, на Украіне) заезны дом, шынок. 29. Раздзел фізікі, які вывучае з'явы і ўласцівасці святла. 31. Дзіця адной маткі, якое нарадзілася адначасова з братам ці сястрой. 32. Драўляная або металічная пасудзіна, у якой таўкуць што-небудзь таўкачом. 33. Той, хто арэ зямлю; земляроб.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Прамежак часу, перыяд у развіцці чаго-небудзь. 2. Аблямоўка па краях або па швах у адзенні ў выглядзе каляровага шнурка. 4. Невысокі скураны абутак на шнурках ці на засцежках (слова ўжыта ў адзіночным ліку). 5. Той, хто размяркоўвае што-небудзь. 6. Прыняцце новага аблічча, вобраза, пераўтварэнне ў каго-небудзь або што-небудзь. 8. Сотая частка якой-небудзь адзінкі. 9. У дарэвалюцыйнай Расіі: засядацель у казённых палатах. 10. Калектыўная праца пры выкананні сельскагаспадарчых работ. 12. Аўтамат, які выконвае дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека. 14. Луста хлеба. 21. Музычна-драматычны твор, пры пастаноўцы якога дзеючыя асобы спяваюць у суправаджэнні аркестра. 22. Памяшканне ў доме пад першым паверхам, ніжэй узроўню зямлі. 23. Група людзей, якія сумесна займаюцца чым-небудзь. 24. Злучэнне азоту з вадародам; бясколерны газ з едкім непрыемным пахам. 25. Жэрдка з крукам на канцы, да якой прычэпліваюць вядро ў калодзежным жураўлі. 27. Невялікае самаходнае судна для розных мэт. 28. Наяўныя грошы ўстановы, прадпрыемства. 30. Вакальны твор, які выконваецца адным голасам у суправаджэнні аркестра.



**Склала Ірына БЕКІШ.**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 447.
Падпісана да друку 14.2.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).